НАША НІВА
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА
Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №35 (156) 20 СЬНЕЖНЯ 1999 г.

## 500 рабочых трох дырэктараў зьнялі, бяруцца за чацьвертага

У Магілёве работнікі заводу «Зэніт» даюць дыхту дырэктару Новікаву. Рэч у тым, што дырэкцыя спрабуе выкінуць свабодны прафсаюз з прадпрыемства. А прафарганізацыя на заводзе баявая і адстойвае інтарэсы рабочых па-сапраўднаму. Ужо 3 дырэктары зьмяніліся, пасля таго як супраць іх арганізоўвала кампанію тутэйшая прафсуполка. Але і чацьверты дырэктар дзейнічаў тымі ж мэтадамі. У прыватнасьці, ён загадаў выселіць офіс прафсаюзу з заводу ў інтэрнат, які знаходзіцца ў 2 км ад «Зэніту». З гэтым не пагадзіліся рабочыя і прыйшлі да кабінэту дырэктара зь пікетам. Было каля 120 чалавек. Дык дырэктар, замест размовы зь людзьмі, абазваў іх тупагаловымі, свабодны прафсаюз абвінаваціў у тым, што ён корміцца з амэрыканскіх даляраў і грукнуў дзьвярыма. Але прафсаюз і тут не сумеўся і ўжо даў позву ў суд за абразу, абяцае і масавыя акцыі, і нават страйк. Рабочыя незадаволеныя дырэктарам, незадаволеныя гаспадарчым станам прадпрыемства. У падтрымку лідэраў ужо складзены зварот, які падпісалі пад 500 заводзкіх людзей. Гэта сіла, і зь ёй прыйдзецца лічыцца. Досьвед зьняцьця дырэктараў у прафсаюзу ўжо вялікі.

**Сымон Глазштэйн**

## Быццам бы Віньнікава

Віньнікава быццам бы знайшлася, але яе ніхто ня бачыў, толькі чулі. Карэспандэнт ВВС Астальскі, які рыхтаваў зь ёй інтэрвію, сам яе ня бачыў, толькі гаварыў праз тэлефон. А даведаўся ён пра яе ад знаёмых яговых знаёмцаў. Гаварыла яна не ўжывую, а ў запісе дзеля перашкодаў на лініі.

Яна ўжо дала інтэрвію радыям «Свабодзе» і «Рацыі». Кажа яна ўсякае. Толькі Карпенку ўсё дзякуе, што ён яе выратаваў. Наш пасол у Вялікай Брытаніі Шчасны сьцьвярджае, што гэтыя яе заявы запісаваліся ў Маскве даўней, а цяпер толькі пракручваюцца, а ці то яна сама ў слухаўку з журналістамі гаворыць, ці то гэта хто іншы, таго спадар Шчасны ня ведае. Хоць быццам бы яна сапраўды ў Лёндане, дзе й яе сын жыве.

**Б.Т.**

## У Расеі перамаглі правыя вялікадзяржаўныя сілы

Кірыенка стае лідэрам дэмакратычнай правіцы, у Думе фармуецца моцны антыкамуністычны блёк. Камуністы наўрад ці яшчэ некалі стануць сілай нумар 1.

*Старонка 5.*

# Беларусаў стала болей



*Фота Анатоля Клешчука*

## 3,7 мільёнаў чалавек гавораць у хаце па-беларуску

### *Сэнсацыйныя вынікі апошняга перапісу ў Беларусі*

Вынікі перапісу насельніцтва, падведзеныя Міністэрствам статыстыкі і аналізу, якія днямі надрукавала дзяржаўная прэса, сьведчаць, што ў Беларусі цяпер жыве 10 мільёнаў 45 тысячаў чалавек. Гэта крыху больш, чым у Бэльгіі ці Баўгарыі, і крыху менш, чым у Грэцыі ці Партугаліі. Беларусь пасярэдзіне.

Пацьвердзіўся і наш нядаўні прагноз наконт жыдоў — іх у Беларусі засталося ўжо нават ня 30, а толькі 28 тысячаў. Можна было прадбачыць і некаторыя іншыя зьмены. Напрыклад, старэньне насельніцтва й рост эміграцыі.

Але ёсьць і аптымістычныя лічбы. Нягледзячы на скажэньні традыцыйнага зьместу пытаньняў пра моўную практыку (што выклікала трывогу й пратэсты з боку беларускамоўных), 41% пашпартных беларусаў сьцьвердзілі, што яны ў хаце гавораць па-беларуску. Вынік сапраўды сэнсацыйны — 37% усіх людзей у Беларусі, паводле перапісу, гавораць па-беларуску! Відавочна, такая статыстыка не задаволіць «заказчыкаў» апытаньня. Таму аўтары кароткай справаздачы не ўтрымаліся ад эмацыйных ацэнак і прыпісалі, што па-беларуску дома гаворыць «адная... усяго...» 41% беларусаў. Калі для Міністэрства статыстыкі і аналізу пад 4 мільёны чалавек — гэта толькі «ўсяго»... Лічбы перапісу даваляюць зусім з новых пазыцыяў гаварыць аб правах беларускамоўных.

*Працяг тэмы на старонцы 6.*

# ВЯЛІКІ ЮБІЛЕЙ БОЖАГА НАРАДЖЭНЬНЯ

Сёлетняе сьвята Божага Нараджэньня — перадапошняе ў гэтым тысячагодзьдзі, пра якое цяжка сказаць, што яно "наша", бо шмат каму з нас — няхай і ня ўсім — давядзецца жыць ды памерці ў зусім новай эпосе. Але толькі не нарадзіцца.

Так ужо павялося, што Каляды 25 сьнежня лічаца ў нас выключна каталіцкімі альбо "польскімі". Насамрэч, ня трэба забывацца на тое, што ў Беларусі існуюць канфэсіі, якія таксама адзначаюць сьвята Раства Божага менавіта ў гэты дзень. Гэта ўсе хрысьціяне, акрамя РПЦ (Расейскае праваслаўнае царквы), наперш — уніяты (у адрозьненьне ад сваіх украінскіх братоў, якія сьвяткуюць 7-га) ды пратэстанты з усім сваім вялізным спэктрам цэркваў. У сваіх калядных пасланьнях усе яны ўздымаюць адны і тыя ж тэмы: падсумаваньне вынікаў тысячагодзьдзя, умацаваньне веры на парозе новага этапу рэлігійнага разьвіцьця ды справу яднаньня ўсіх хрысьціянскіх сёстраў-цэркваў плянэты.

Архімандрыт **Сяргей Гаек** у сваім звароце да грэка-каталікоў Беларусі нагадвае: *"Хрыстос заклікае нас да прымірэньня. Усе мы павінны напоўніцца духам прымірэньня і добразычлівасьці да людзей. Нам патрэбны дух прымірэньня, як у адносінах да нашых братоў па веры, гэтак і да нашых братоў праваслаўных, а таксама да хрысьціянаў іншых канфэсіяў. Нам патрэбны дух прымірэньня ў адносінах да нашых братоў няверуючых і да ўсіх нашых суграмадзянаў".*



*Івонка Сурвілла. Ікалядзь*

Айцец Сяргей на гэты раз зьвяртае асаблівую ўвагу на праблему алькагалізму, што *"зьяўляецца страшнай бядой у нашым Краі, якая нішчыць асобы, сем'і і ўсё грамадзтва. Наша Царква і наша Айчына патрабуюць людзей цьверазых, якія аддана маглі б працаваць дзеля агульнага дабра. Няхай наш добраахвотны выбар неўжываньня алькаголю ў Юбілейным Годзе будзе выяваю нашае рэальнае любові да Бога, да нашай Царквы і нашай Айчыны"*, — заклікае архімандрыт. І далей працягвае: *"Умілаваныя ў Госпадзе Браты і Сёстры! На парозе Вялікага Юбілею 2000 Году прыміце блаславеньне Сьвятога Айца Яна Паўла II, а таксама пастырскія віншаваньні Яго Эмінэнцыі Кардынала Ахілеса Сільвэстрыні, Прэфэкта Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў. Перадаю іх вам з глыбокай радасьцю і маімі найлепшымі пажаданьнямі, каб сьвяты Божага Нараджэньня і ўвесь Юбілейны Год былі для нас усіх, для нашае Царквы і нашай Бацькаўшчыны сапраўдным часам Божае ласкі.*

*Няхай дапамагаюць нам у гэтым малітвы Найсьвяцейшай Багародзіцы і ўсіх і блаславёных Зямлі Беларускай".*

Найлепшыя пажаданьні чытачам перадаў і моліцца за іх таксама пастар кальвіністкай суполкі **Лявон Ліпень**.

Мы ж, супрацоўнікі "Нашае Нівы", жадаем, каб сьвяты нараджэньня сапраўды сталіся для ўсіх нас падсумаваньнем усяго найлепшага, што ёсьць і будзе ў нашым жыцьці, сымбалем непераможнасьці, нязкоранасьці духу, але разам з тым ня будзем забывацца і на тое, што дзень Божага Нараджэньня — гэта маленькая ўрачыстасьць у кожнай сям'і, калі сваякі, сябры і проста знаёмцы зьбіраюцца, каб узгадаць "простыя рэчы, простыя словы". Хай нашае з вамі сьвята будзе прасякнутае ціхаю ласкай і міласьцю да бліжняга ды літасьцю да самых сябе. Не такія, відаць, мы ўжо і благія, калі маем нагоду і магчымасьць хоць раз на год сустрэцца і паразмаўляць пад ледзь чутныя посьвісты ветру ды ціхуткае грукацeньне сьняжынак. Ці пад шоргат дажджу — як адзін з адметных паказьнікаў беларускае рэчаіснасьці канца другога тысячагодзьдзя.

Хрыстос нарадзіўся!

**Анатоль Прасаловіч**

## Аляксандар Кулінковіч: «РАСШЫФРОЎВАЮ НЕСЬВЯДОМАЕ»



*Расейскамоўны Аляксандар Кулінковіч сваёй нутранай беларускасьцю можа даць форы шмат якім беларускамоўным нацыяналістам. Пры гэтым у тэкстах яговых песень вы ня знойдзеце патасу. Хіба што палітычны сьцёб. «ППРБ, агу, агу! Бананы мёрзнут на снегу». «NeuroDubel» — гурт, які ня ўмее граць. Ягоная сіла ў энэргетыцы. Заўтра, 21 сьнежня, «NeuroDubel» грае ў клюбе «Magna» на «Танцах на Калядах». У лістападзе ў менскім цырку гурт прэзэнтаваў свой новы альбом «Кутрынкі і качулкі». Галоўнай адзнакай той імпрэзы была ня музыка, а супрацьстаяньне: амон супраць музыкаў і гледачоў. Цяперашні выступ у «Акварыюме» мусіць стаць прэзэнтацыяй-рэваншам. Весёлым шоў. Больш камэрным. Зь лідэрам «ND» Аляксандрам Кулінковічам гутарыць Севярын Квяткоўскі.*

*Працяг на старонцы 4.*

# ЗА СЬПІНАЮ Ў ПАЗЬНЯКА



***Уладзімер Крукоўскі — вядомы мастак і журналіст. Клясык беларускага плякату, чые творы сталі хрэстаматыйнымі. З 1963 г. — «пад каўпаком» КГБ. Адзін з кіраўнікоў «Мартыралёгу Беларусі», сябра Сойму БНФ. У 1990 годзе кіраваў кампаніяй З.Пазьняка на выбарах у Вярхоўны Савет. Стварыў (разам зь Яўгенам Кулікам) эталён дзяржаўнага гербу Беларусі «Пагоня». У 1993 годзе адышоў ад актыўнай дзейнасьці ў структурах БНФ, але застаўся цьвёрдым прыхільнікам фронтаўскіх арыенціраў (незалежнасьць, родная мова, Эўропа). Паходзіць са старажытнага шляхецкага роду гербу «Корвін». Да пэнсіі працаваў мастацкім рэдактарам часопіса «Спадчына».***




1980




1980

**— Спадар Крукоўскі, чаму пасьля пяці гадоў напружанай працы ў структурах БНФ Вы так рэзка адышлі ўбок?**

— Ці я адзін? Проста стаміўся адстойваць уласную пазыцыю, уласнае бачаньне крызысу, які няўмольна насоўваўся на Фронт. Трэба было вырашаць: або заняцца фракцыйнай, апазыцыйнай дзейнасьцю ў самым БНФ, або... Я выбраў другое.

**— А што адбылося ў 1963 годзе?**

— Арыштавалі маіх сяброў з БДУ — Шыдлоўскага, Рыжыкава, Пестрака. У Жэні Шыдлоўскага пры арышце знайшлі каля 20 маіх лістоў з войска (я служыў тады ў Барысаве, у 6-й танкавай арміі). А ў тых лістах было пра ўсё, чым жыло тады маё пакаленьне, гэтак званыя «шасьцідзясятнікі»: і пра Хрушчова зь ягонай кукурузай, і пра камуністаў наагул, і пра забойства Кенэдзі і г.д. З гэтага пачалося. Даслужваў я пад пільным наглядам асобага аддзелу. Потым у Ружанах, куды вярнуўся пасьля дэмабілізацыі, меў пэрсанальнага «цівуна» ў асобе опэрупаўнаважанага (ці як там яны называліся) па раёне. Тое самае працягвалася і пасьля пераезду ў 1970 г. у Менск, дзе я сышоўся з групай мастакоў-дысыдэнтаў: Я.Куліком, М.Купавам, А.Марачкіным, В.Маркаўцом. З той пары мы разам. Аж да гарбачоўскіх часоў «таптуны» і віжы літаральна наступалі нам на пяты. Цікуюць, пэўна і цяпер, але ўжо іншыя службы іншага гаспадара.

**— Што забясьпечыла перамогу Зянона Пазьняка ў першым жа туры выбараў у Вярхоўны Савет?**

— Па-першае, асоба Пазьняка. Просты, даступны, адукаваны, свабодная, нязмушаная манера паводзінаў. Яснасьць думак, добрая беларуская мова, выдатная рэакцыя. Ён тады быў на ўзьлёце папулярнасьці. За такую асобу лёгка было агітаваць.

Па-другое, дружная, самаадданая каманда. Уладзімер Арлоў, Лявон Бартлаў, Юры Дракахруст, Жора Чунтонаў, Віктар Каролік, Сяргей Міхноў, Мая Кляшторная ды іншыя не шкадавалі ні сілаў, ні часу, хоць сярод ночы падымай. Працавалі разумна, улічвалі сацыяльны склад і псыхалёгію выбаршчыкаў акругі. А гэта былі вуліцы Іркуцкая, Енісейская, Байкальская, Ангарская — словам, менская Сібір, спальны раён Аўтазаводу і Трактарнага. КПБ вельмі спадзявалася, што пралетарыят не зразумее і не падтрымае інтэлігента Пазьняка. Памылілася. І зразумеў, і падтрымаў.




1980




1987

Па-трэцяе, праколы нашых праціўнікаў. Мы працавалі карэктна, ніколі ня ганьбілі, не абражалі канкурэнтаў і, у той жа час, дакладна выкарыстоўвалі іхныя памылкі. Зь некалькіх супернікаў галоўнай была жанчына — кадравы партыйны работнік. На яе працаваў гаркам КПБ, прапагандысцкім апаратам якога кіраваў тады сумнавядомы «чаўнок» Краўчанка. Асабліва стараліся так званыя «группы поддержки», якія гнезьдзіліся, вядома ж, у гаркаме. Сёньня яны закідвалі паштовыя скрынкі паведамленьнем, што Пазьняк — сіяніст. Назаўтра Пазьняк быў ужо антысэмітам, яшчэ праз дзень — паліцаем (1944 году нараджэньня!). 3—4 такія пісулькі — і людзі іх ужо не чыталі.

Цяжка было прабіцца ў сталічную прэсу. Я асабіста абышоў усе менскія газэты. «Советская Белоруссия» спасылалася на вялікую чаргу, «Знамя юности» — на ўзрост Пазьняка (ня юны), «Мінская праўда» — на кандыдатаў з вобласьці, а «Вечерний Минск» «чэсна» заявіў: «Мы не можем пропагандировать нашего политического оппонента». Мы расказвалі пра ўсё гэта на сустрэчах і мітынгах, і чым больш нас душылі ўлады, тым больш нам давяралі простыя людзі. Толькі «Автозаводец» у асобе колішняга рэдактара Філончыка насьмеліўся за тыдзень да галасаваньня надрукаваць артыкул «Чалавек, які не баіцца сыстэмы» (гэта пра Пазьняка). Напісаны ён быў Ул.Арловым і Ю.Дракахрустам. Карацей, увесь выбарчы нэгатыў мы здолелі ператварыць у пазытыў.

**— А чаму выбар Пазьняка выпаў на Вас?**

— Сяброўскія адносіны плюс той факт, што «лепшыя» на той момант ужо працавалі ў іншых камандах або балятаваліся самі.

**— Вы згадалі пра крызыс у БНФ. Калі ён пачаўся і якія прычыны яго выклікалі?**

— Першыя прыкметы зьявіліся адразу ж пасьля Выбараў-90, калі Фронт раптоўна, амаль у адзін дзень, падзяліўся на «вярхі» і «нізы». Частка сяброў і кіраўнікоў БНФ трапіла ў парлямэнт, атрымала статус недатыкальнасьці, амаль кожны дзень «сьвяцілася» ля мікрафонаў ці на экранах тэлевізараў. Большасьць жа працягвала займацца будзённай «чорнай» працай, часта падстаўляючы сьпіны і галовы, рызыкуючы пасадамі і здароўем. На жаль, шмат каму з нашых парлямэнтароў не хапіла такту, звычайнага добрага выхаваньня і псыхалягічнай тонкасьці ў кантактах з асноўнай масай фронтаўцаў. Усе яны, як правіла, былі інтэлігентамі ў першым пакаленьні. Нэгатыўную ролю адыгралі і пэўныя асабістыя якасьці З.Пазьняка: ягоная катэгарычнасьць, залішняя рэзкасьць, бескампраміснасьць. Пачаўся сыход «мазгоў». Фронт пакідала творчая і навуковая інтэлігенцыя. Гэты працэс працягваецца і цяпер. Адыходзіць у паралельныя структуры, іншыя партыі і проста ў нікуды здольная, адукаваная моладзь. На жаль, БНФ, як і іншыя партыі, пабудаваны ў выглядзе клясычнай арганізацыйнай пірамiды зь лідэрам, правадыром на вяршыні. Пасьля зьнікненьня вяршыні пачалася непазьбежная эрозія, пачалося «асыпаньне» піраміды.

**— Што, на Вашу думку, выклікала раптоўны, незразумелы ад'езд Зянона Пазьняка?**

— Не прэтэндую на ляўры славутага Бурцава, але ўпэўнены, што гэта — вынік тонкай, шматходавай апэрацыі спэцслужбаў. Апошнія гады міліцыя старалася ахоўваць Пазьняка, не дапускаць ніякіх правакацыяў супраць яго. Рэжым выдатна разумеў, што паранены або арыштаваны, ён адразу рабіўся агульнанародным героем, сымбалем, паходняю апазыцыі, і наступствы гэтага нават цяжка было пралічыць. Іншая рэч — добраахвотная эміграцыя. У нашых умовах гэта, фактычна, палітычнае самагубства лідэра. Нехта з бліжняга акружэньня, відаць, пераканаў З.Пазьняка ў мэтазгоднасьці такога кроку, у рэальнасьці сьмяротнай пагрозы, у той карысьці для вызвольнага руху, якую можа прынесьці ягоная замежная дзейнасьць. Пазьняк, пры ўсёй ягонай праніклівасьці і тонкай палітычнай інтуіцыі, бываў часамі даверлівы да наіўнасьці.

**— Ці ёсьць у Вас вэрсія наконт правакатара ці правакатараў?**

— Вэрсія ёсьць, але не для друку.

**— Калі адлічваць ад «Камітэту-58», дык сёлета споўнілася 11 гадоў сучаснаму апазыцыйнаму руху ў Беларусі. А які лёс, на Вашу думку, чакае «бацьку» апазыцыі, БНФ?**

— Я аптыміст. БНФ — не часовае, створанае для канкрэтнай, блізкай мэты аб'яднаньне. Фронт — зьява шматстайная і на доўгія гады. Нават калі будуць дасягнутыя асноўныя мэты і выкананыя галоўныя задачы: незалежнасьць, мова, Эўропа. Адно што трэба шукаць новыя, нешаблённыя формы барацьбы, патрэбныя арыгінальныя ідэі, сьвежыя сілы. Трэба, нарэшце, пазбавіцца ад шкоднага звычаю заганяць балячкі ўглыбіню (абы людзі ня ведалі). Калі я пачуў нядаўна з вуснаў аднаго з кіраўнікоў Фронту, што «асноўнай задачай сёньня зьяўляецца выхаваньне сьвядомай інтэлігенцыі», мне зрабілася сумна і сьмешна. Настаўнік жа павінен быць больш адукаваны і разумнейшы за вучня.

**— Апошняе пытаньне, спадар Уладзімер. Вы вядомы мастак-плякатыст. Як творыцца сёньня?**

— Нармальна. Хоць мой канёк — палітычны плякат, а ён сёньня нікому не патрэбны і няма заказчыка, я кожны год раблю і паказваю на выставах некалькі новых працаў. Потым яны асядаюць у майстэрні.

**— Дзякуй Вам за цікавую гутарку.**

— Вам дзякуй. Dixi!

**Гутарыў Алег Карповіч**




1981

*На здымках: плякаты Ўладзімера Крукоўскага*

# Не мядзьведзю, дык яблыку

***Калі назіраеш за Расеяй, традыцыйна хочацца ўзьвесьці Вялікі Беларускі Мур уздоўж усходняй мяжы.***

Увогуле, карысьць ад веданьня раскладу сілаў на сходняку варожага абшчаку невялікая, бо, прыкладам, дамову аб саюзнай дзяржаве Дума ратыфікуе ў любым выпадку. Нашмат цікавейшым у практычным пляне падаецца расейскі досьвед перадвыбарчай агітацыі ды замбаваньня электарату, бо ў нас на носе вісяць собскія выбары.

«Маскі-шоў» былі б, пэўне, найтрапнейшым эпітэтам для расейскай выбарчай кампаніі. А яшчэ напрошваецца слова «бруд». Думаю, ня трэба даводзіць, што галоўным стваральнікам настрояў электарату пакуль што зьяўляецца тэлебачаньне: менавіта ягоны вобраз кандыдатаў — уперамешку з кадрамі крымінальнай кронікі ды бразыльскімі сэрыяламі — і вызначае рашэньне якога кастрамскога булдоса ці іванаўскай ткачыхі галасаваць за Вольфавіча ці мэра Лужкоў з анэкдоту.

Дзеля дасягненьня перамогі былі ўжытыя шмат разоў бітыя карты краплёнай расейскай калоды: беларускае пытаньне (гараваньні па разарваным братэрстве, заявы аб шасьці губэрнях...), вайна ў Чачэніі (з паказальнымі выездамі на месца Шайгу), Дарэнка са сваім : «Груган гругану вока выклюе».

І сьмех, і грэх, і сабачы брэх. Відэаролікі ў лепшых традыцыях постсавецкай кляўнады. Чаго вартыя хоць бы забаўныя сваёй імшэласьцю кадры сталіністаў альбо анпілаўцаў. Можна ўявіць, што б круцілі перад вачыма прытлумленага ўжо электарату баркашоўцы.

Усё гэта падаецца сьмешным толькі звонку, а што б рабілі беларусы, апыніся яны ў падобнай сытуацыі бессаромнага «brainwashing»-у? У нас няма й ня будзе расейскага размаху. У Расеі ж, трэба прызнацца, перадвыбарчы пэрфоманс часам можа і павесяліць: у чартах аналаў перадвыбарчай стратэгіі назаўжды застанецца песьня «Расея» ў выкананьні Жырыноўскага, які голасам нагадваў Шуфіка ў цяжкія ранішнія гадзіны панядзелка. Пацешылі і «Правыя сілы»: на падпеўках у эстрадных выканаўцаў раптам апынуўся «кіндэр-сюрпрыз» Кірыенка, а маладжавая Хакамада ўвогуле «закасіла» пад тынэйджарку, аддана і шчыра выплясваючы «па гіп-гопе» перад шматмільённай аўдыторыяй прызвычаеных да такога «цырку на дроце» расейскіх выбарцаў.

Беручы пад увагу такую сытуацыю, зьдзіўляе досыць высокі адсотак прыходу людзей на выбары — 60%. Тлумачыцца гэта, відаць, тым, што ў расейскага насельніцтва няма іншага выйсьця: расейцы ня могуць жыць у стане бясконцай вайны, расейцы хочуць у час атрымліваць заробак, расейцы хочуць проста жыць. Дык трэба ж за некага прагаласаваць, трэба ж некаму пакланяцца! Не мядзьведзю, дык яблыку.

**А.Прас.**



# РАСЕЯ ЗРАБІЛА КРОК У ЦЭНТАР

Расея прагаласавала за пераемнасьць палітыкі рэформаў. У Думу ўвойдуць быццам 6 партыяў. Упершыню за доўгія гады зьмянілася псыхалягічная сытуацыя: камуністы больш не ўспрымаюцца як наймацнейшая палітычная сіла. Як і ва Ўкраіне, гэтая партыя застаецца партыяй настальгуючай меншасьці і ў такім выглядзе ня мае шанцаў дабіцца ўлады. Гэта падштурхне яе да большай памяркоўнасьці і альянсу з блізкім ёй па духу блёкам Лужкова—Прымакова, што можа даць Расеі моцны левацэнтрысцкі блёк дзяржаўна-бюракратычных сілаў. Зь іншага боку, працэнт галасоў, пададзеных за Лужкова—Прымакова — яўная параза. Шанцаў на прэзыдэнцтва ў Прымакова амаль няма, і трэба меркаваць, што рэгіянальныя дэпутаты пачнуць аддзяляцца ад Лужкова неўзабаве і далучацца да Пуціна. Шайміеў ужо заявіў у начным эфіры, што ОВР ствараўся як адзіны блёк толькі да 20 сьнежня.

Жырыноўскі застаецца. Яўлінскі зьмізарнеў. Разам з тым нечакана высокі атрымаўся рэйтынг Саюзу Правых Сілаў, за якога галасавала моладзь. Гэта сьведчыць за тое, што на палітычнай арэне зьявілася новая хваля, якая можа зьмяніць сытуацыю і ў беларуска-расейскіх стасунках. Бо, як ведама, іхны лідар Кірыенка заўсёды быў супраць саюзу з Лукашэнкам.

І бадай, галоўным вынікам выбараў у расейскую Думу стала тое, што ўсякія Бабурыны, Ілюхіны і Рагозіны, найбольшыя імпэрыялісты і Лукашэнкавы сябры, не атрымалі ніякай падтрымкі.

**Гары Куманецкі**



## Беспрацоўе

Літоўцы прагназуюць, што ў наступным годзе беспрацоўе ў краіне не перавысіць 10%. Сёлета на першага сьнежня ўзровень беспрацоўя складаў 9,5%. Мяркуюць, што ён такім і застанецца.

## Наркотыкі

А вось з наркотыкамі ўсё нашмат больш пэсымістычна. Паліцыя падлічыла, што абарот наркамафіі ў Літве складае 50 млн. літаў ($12,5 млн.) у год. Пашыраецца продаж наркотыкаў найперш у віленскіх школах. Трывожная тэндэнцыя апошніх гадоў: усё больш наркаманаў ад опію (мак) пераходзяць да сынтэтычных (амфэтамінных) і прывазных (гераін, какаін, ЛСД) наркотыкаў. Гэта небясьпечна зь некалькіх прычынаў. Па-першае, кантраляваць літоўскіх вытворцаў маку магла і мясцовая паліцыя. Але калі ў краіну хлынулі прывазныя наркотыкі, дык стала стварацца і клясычная сыстэма канспірацыі — босы, транспартоўцы, фасоўшчыкі і вулічныя гандляры. Дабрацца да верху гэтае пірамiды сёньня практычна немагчыма. Падругое, школьнікам нашмат больш падабаецца курыць гераін, чым калоцца опіем, а гераінавы наркаман лічыцца ўжо канчаным чалавекам. Яшчэ адна кепская тэндэнцыя — наркотыкі ў Літве рэзка патаньнелі. Калі тры гады таму адзін грам гераіну на віленскіх вуліцах каштаваў 150-200 даляраў, дык сёньня кошты ўпалі да 30-50. Крыху даражэй каштуе какаін. Таблетку амфэтаміну можна купіць за 10 даляраў. Столькі сама каштуе і адна доза (марачка) ЛСД. Паліцыянты скардзяцца, што вулічныя гандляры тусуюцца цяпер каля кожнай школы, што на месцы схопленага распаўсюдніка зараз жа зьяўляецца новы, а на тое, каб дастаць арганізатараў злачыннае дзейнасьці, праваахоўным органам не хапае ані людзей, ані грошай.

**Ліцьвін**

# ЧАЧЭНЦЫ ГІНУЦЬ АД БЕЛАРУСКАЙ ЗБРОІ

***Чачэнцы гэтымі днямі знаёмяцца зь якасьцямі новае зьнішчальнае зброі — сыстэмы залпавага агню «Кенгуру». Ці ня тая самая гэта сыстэма «Кенгуру», што вырабляецца ў Беларусі?***

Раней, гадоў дзесяць таму, была распрацаваная і пачала выкарыстоўвацца рэактыўная сыстэма залпавага агню пад назовам «Град» на базе грузавіка «Урал».

Год таму ў Менску на базе шасі МАЗу-6317 падрыхтавалі беларускі варыянт «Граду». І далі яму назоў «Белград», што расшыфроўвалася як «Беларускі Град». Але такі назоў гучаў двухсэнсоўна... І тады зьявіўся назоў «Кенгуру».

Пры чым тут аўстралійская жывёліна да беларускае зброі? Уся рэч у тым, што ўстаноўка «Град» зьмяшчае ў сабе толькі адзін камплект боепрыпасаў. А беларускі варыянт дае магчымасьць разьмясьціць адразу тры камплекты. Прычым тая частка сыстэмы, у якой месьцяцца два дадатковыя камплекты, завецца торбаю. Адсюль і асацыяцыі з кенгуру.

Паводле некаторых крыніцаў, у Менску на гэты час ужо сабралі 12 установак «Кенгуру». Праўда, быццам бы толькі дзьве машыны прайшлі заводзкае выпрабаваньне. Магчыма, яны й трапілі ў Чачэнію.

А вось тое, што ў расейскіх вайскоўцаў існуе іншая зброя, якая зробленая з удзелам беларускіх прадпрыемстваў, сумневу няма. Як няма сакрэту з таго, што значная частка оптыкі, якая ўжываецца ў танках, баявых машынах пяхоты, бронетранспартэрах, зробленая на Менскім оптыка-мэханічным вытворчым аб'яднаньні. Тут жа вырабляюць і сыстэмы навядзеньня танкавых гарматаў. У Беларусі ж робяць дэталі танкаў Т-72.

**Радыё Свабода**

**Просім адгукнуцца ўсіх тых, хто мае зацікаўленасьць у супольнае працы па стварэньні ЛІЦЬВІНСКАГА КУЛЬТУРНАГА КАНТЭКСТУ**

*(распрацоўцы ліцьвінскае гістарыяграфіі, удасканаленьні нацыянальнае пісьмовасьці, мовы, адраджэньні ліцьвінскага грамадзкага жыцьця і г.д.), а таксама для аб'яднаньня ў агульных карпаратыўных інтарэсах.*

Тэл.: (017) 214-20-39;
пэйджэр: (017) 278-11-01 аб. 6663.
E-mail: litvania@mail.ru альбо litvania@europemail.com.
Наш сайт: http://come.again.to/LITVANIA

# ІНСТЫНКТ ЗАХАВАНЬНЯ НАЦЫІ

Беларускі савецкі фантом пасьпехаў роднае мовы быў для каго суцяшэньнем, а для каго й спосабам прыкрываць сапраўдную моўную палітыку ў БССР. І партыйныя рапарты пра тое, што «79% беларусаў уважаюць беларускую мову роднай», мала стасаваліся з рэаліямі, дзе жывой мове не было месца. У цяперашняй афіцыйнай публікацыі зь немаведама якой базы няма лічбы, колькі ж беларусаў лічаць сваю мову роднай сёньня. «Назвалі роднай мовай мову сваёй нацыянальнасьці амаль 82 працэнты насельніцтва рэспублікі... У 1989 годзе гэты паказчык склаў адпаведна 78 працэнтаў». І што з гэтага вынікае?

Найперш тое, што працэс нацыянальнага самаўсьведамленьня беларусаў за апошнія 5 гадоў спыніць не ўдалося. Наадварот, у нацыі спрацаваў інстынкт самазахаваньня. Няцяжка падлічыць, зважаючы на папярэднія перапісы й колькасьць нацыянальных меншасьцяў, што роднай сваю мову гэтым разам назвала блізу 90% беларусаў. Гэтую лічбу вырашылі не публікаваць. Каб не даваць нам, народу, падставаў для аптымізму і лішніх развагаў пра тое, што мы дастаткова сталая нацыя, каб самастойна наладжваць сваё жыцьцё, без саюзу са «старэйшымі братамі».

Так ці інакш, атрымліваецца, што па-расейску ў нас гаворыць толькі (толькі!) 59 працэнтаў беларусаў. І тут яшчэ адна сэнсацыйная навіна: беларусаў стала больш! Нягледзячы на няўхільнае скарачэньне насельніцтва, высокую сьмяротнасьць, замалую нараджальнасьць, эміграцыю. Беларусаў у Беларусі цяпер больш за 8 мільёнаў 157 тысячаў.

Яшчэ ў 1994 годзе, упершыню за ўсе паваенныя гады, насельніцтва Беларусі скарацілася на 22 тысячы чалавек. Навукоўцы таксама назвалі гэта сэнсацыяй і абвясцілі кепскія часы. І вось за апошнія гады насельніцтва скарацілася ўжо на 107 тысячаў чалавек. Гэта больш, чым жыхароў Мазыра ці Ліды... І зноў у статыстычныя зьвесткі закрадаецца палітычнае вытлумачэньне: «На сучасную структуру насельніцтва Беларусі зрабілі йстотны ўплыў ня толькі падзеі апошніх дзесяці гадоў, але і...» Тут прыводзіцца пералік гістарычных фактараў, які замыкае Чарнобыль. Пад «падзеямі апошніх дзесяці гадоў» ананімныя аўтары маюць на ўвазе незалежнасьць краіны. Аднак чарнобыльская трагедыя здарылася за 5 гадоў да таго. Пасьля ж распаду СССР, толькі ў 1992 годзе насельніцтва нашае дзяржавы вырасла аж на 65 тысячаў чалавек. А вось скарачацца яно стала толькі пасьля абраньня прэзыдэнтам Лукашэнкі, менавіта з 1994 году. Відаць, ня ўсе пажадалі заставацца ў краіне, што «не пайшла за цывілізаваным сьветам».

Каго ж стала меней? Найперш расейцаў. З 1989 году іх стала меней роўна на 200 тысячаў і на 2% меней ад агульнае колькасьці жыхароў Беларусі. На 84 тысячы стала меней жыдоў і іхны працэнт ад усіх астатніх цяпер складае мізэр — 0,3%. Што мы страцілі з ад'ездам зь Беларусі жыдоў? Калі гаварыць толькі моваю статыстыкі, атрымаецца гэтак: сярод іх людзей з вышэйшай адукацыяй было больш як 41 працэнт, а сярод беларусаў менш як 12. Вось і падлічыце...

Украінцаў стала меней на 54 тысячы. На 22 тысячы паменела палякаў.

А вось беларусаў зь мінулага перапісу стала болей! Больш як на чвэрць мільёна, на цэлыя 254 тысячы! Цяпер беларусы складаюць ужо 81,2% ад усяго жыхарства краіны. Гэта самы вялікі працэнт за ўсю гісторыю перапісаў. Кроніка й структура гэтага прыросту выглядаюць наступным чынам. Багата беларусаў павярталіся з чужыны ў родны край. (Напрыклад, у 1991-м насельніцтва Беларусі вырасла на 20,4 тысячы чалавек.) А пік вяртаньня прыпаў на той 1992 год, калі ўсё нібы ставала на свае месцы: мова і сымбалі, ідэалы й жаданьні, свабода. Таксама за апошнія гады багата людзей вызначыліся са сваёй нацыянальнай прыналежнасьцю на беларускую карысьць. Верагодна гэта адбылося найперш за кошт асыміляцыі расейцаў і ўкраінцаў.



Фота Анатоля Клешчука

І нараджальнасьць была высокай менавіта ў тыя гады, напрадвесьні незалежнасьці. Колькасьць дзяцей ва ўзросце ад 10 да 14 гадоў вырасла за апошнiя дзесяцігодзьдзе блізу як на 100 тысячаў. Гэта дзеці незалежнай Беларусі. Аднак за апошнія чатыры гады нараджальнасьць рэзка зьменшылася. І дзетак да 4 гадоў у нас стала значна меней. У 1989 іх было 819 тысячаў, а цяпер 476...

Аднак жыхароў Беларусі ўсё адно шмат больш, чым у якіх Нарвэгіі ці Швэйцарыі, Фінляндыі ці Аўстрыі. І ў тых краёх на тое не наракаюць. Бадай, ня толькі ў колькасьці справа.

**Гары Куманецкі**



*Фота Анатоля Клешчука*

# ДА МЕНЧУКОЎ-БЕЛАРУСАЎ

Вы шчэ маеце час падпісацца на «Нашу Ніву» да 23 сьнежня.

Падпіска на шапік вельмі зручная: абыходзіцца таньней, чым купляць, а забіраць можна хоць у панядзелак, хоць калі хочаш, нават праз месяц. Вельмі просім: калі Вы купляеце газэту штотыдня, дык, калі ласка, замест гэтага падпішыцеся. Вось чаму: продаж праз «Белсаюздрук» выходзіць для газэты стратным, а падпіска прыносіць прыбытак (хоць для Вас падпіска таксама выгаднейшая па грошах). Бо калі прадаюць газэту ў шапіку, дык 40% кошту «Белсаюздрук» бярэ сабе, а рэшту грошай нам вяртае толькі праз 3 месяцы. І мы ня маем, як разьвівацца.

Дык падпішыцеся, калі ласка. Бо Беларусь мяняецца, а «Наша Ніва» застаецца.

*Рэдакцыя*



# МОЙ СЬВЕТЛЫ ГОРАД

Вадзім БОЛБАС

Напісаў загаловак і думаю: «*Мой* і *сьветлы* ці браць у двукосьсе?» Ці лічу я гэты горад сваім? Ці такі ён сьветлы?

З аднаго боку, наш горад найгоршы ў Беларусі — тут больш за 2,5 тысячы інфікаваных AIDSам. А зь іншага боку, гэты горад найлепшы ў Беларусі — тут няма помніка Леніну.

Дык напішу пра ўсе бакі гораду, а пасьля, перачытаўшы напісанае, вызначуся з двукосьсем.

А пішу я пра места, першы вядомы ўспамін пра якое знойдзены ў архівах за 1560 год. З гэтых архіўных запісаў вядома, што з-за адсутнасьці спадкаемцаў ва ўладальніка селішча «Шацілінскі востраў» Рамана Шацілы права на валоданьне селішчам перадавалася каралеўскім загадам шляхціцу Ждану Манкевічу. Што ж да заснавальніка гораду Рамана Шацілы, дык паводле адной з вэрсіяў (У.Рогалеў) «шацілямі» ў тыя часы называлі бяздомных людзей, бадзяг, якія «шаталіся» без прытулку. Паводле другой — «шціла» быў краўцом і шыў «шаты».

Ёсьць гістарычныя зьвесткі аб тым, што ў 30-х гадах XVII ст. у Шацілавічах быў збудаваны першы ў гэтай мясцовасьці касьцёл — езуіцкі.

Дарэчы, цяпер найпрыгажэйшым будынкам у горадзе зьяўляецца каталіцкі касьцёл Узьнясеньня Крыжа Гасподняга, асьвечаны біскупам Казімерам Сьвёнткам у верасьні 1997 году.

Сьціплы атэіст, аўтар гэтых радкоў, таксама браў удзел у падрыхтоўцы храма да асьвячэньня — здымаў унутраныя рыштаваньні. Адначасова даводзячы



свайму напарніку (расейскамоўнаму будучаму ксяндзу Эдзіку), што беларуская мова ў Сьветлагорску — зьява такая ж натуральная, як і нямецкая ў Гельмштэце, нямецкім пабраціме Сьветлагорску.

## ВЫБІТНЫЯ АСОБЫ

**ЗАВАДЗКІ**

Першым дырэктарам Васілевіцкай ДРЭС (цяпер Сьветлагорская ЦЭЦ) быў Аляксандар Завадзкі — чалавек-легенда для старых сьветлагорцаў. Разумны кіраўнік, заўзяты паляўнічы й рыбак. І, акрамя гэтага, вялікі аматар, знаўца і ўлюбёнец жанчынаў.

**ТАЦЯНОК**

Другая легендарная постаць, што яшчэ жыве ў памяці шацілаўцаў, — інжынэр-будаўнік Юры Тацянок. Майстар боксу ў паўцяжкай вагавай катэгорыі, бясстрашны рызыкант, вялікі мастак на ўсялякія жарты. Выпіць гарэлкі мог хоць вядро, і хоць бы што. Гэта ён, будучы кіраўніком будупраўленьня, прымаў студэнтаў на практыку наступным чынам: даставаў са стала пляшку гарэлкі, паўнютка наліваў дзьве «малянкоўскія», як тады казалі, шклянкі і прымушаў няшчасных (ці мо шчасьлівых) студэнтаў выпіваць да дна. Маўляў, гэта для вас найважнейшы іспыт на званьне сапраўднага будаўніка.

Пасьля, калі хлопцы выходзілі, кідаў усе справы і зь цікавасьцю назіраў з вакна, праз колькі крокаў выпітая гарэлка зваліць маладых будаўнікоў з ног.

Гэта Юры Тацянок, працуючы ў аддзеле капітальнага будаўніцтва заводу штучнага валакна, раз-пораз дапісваў у складзеныя кіраўніцтвам заяўкі на будматэрыялы то пару тонаў канцылярскіх пер'яў, то яшчэ чаго такога.

Гэта ён пад час пікніка на беразе, выпіўшы добра, мог залезці на вершаліну дрэва і, разгайдаўшыся, скокнуць адтуль у ваду.

Цяпер ужо няма ў Шацілках такога зуха.

**ЦЕРАХ**

Церах (Цярэнці Прыходзька) жыў не ў саміх Шацілках, а ў Якімавай Слабадзе, што ў чатырох кілёмэтрах ад мястэчка. Прыроджаны інжынэр, мэханік, канструктар і вынаходнік. Волат і асілак.

Гэта ён падымаў і ўмацоўваў мэталічны комін кацельні былой Шацілаўскай вэрфі. Я яшчэ памятаю той комін, вышынёю пад 30 мэтраў, дыямэтрам 80 сантымэтраў. Ставіў яго Церах без аніякіх сучасных пад'ёмных мэханізмаў. Паставіў два калаўроты з сыстэмамі блёкаў, набраў каманду памочнікаў, усе тросы замацаваў сам, перахрысьціўся і загадаў паціху круціць калаўроты. Комін падняўся і стаў.

Перад гэтым кіраўнікі вэрфі запрашалі арганізаваць гэтую работу інжынэраў з Бабруйску, але тыя, прыехаўшы і агледзеўшы аб'ект, ад работы адмовіліся.

У падпольлі хаты, дзе жыў Церах, да гэтага часу захоўваюцца падмурак і асобныя дэталі вечнага рухавіка, які сканструяваў і зьбіраўся запусьціць у работу Церах Прыходзька. І гэта ўжо не легенда.

## ШАЦІЛАВІЧЫ ЛЕПШЫЯ ЗА СЬВЕТЛАГОРСК

Пасьля пабудовы Васілевіцкай ДРЭС урад Беларусі прыняў рашэньне аб разьвіцьці на яе базе ў Шацілках папулярнай у тагачасным СССР хімічнай прамысловасьці. З пачаткам будаўніцтва завода штучнага валакна ў 1961 годзе мястэчка Шацілкі набыло статус гораду і назву Сьветлагорск (сьветлыя горы, значыць).

Пад час вандровак па гарах Каўказа і Паміра турысты зь іншых месцаў неаднаразова пыталіся, у якіх гарах стаіць наш сьветлы горад.

І што на гэта было адказаць? Што канчатак *-горск* азначае ня *горы*, а *горад*. Людзі ўсё адно сьмяяліся. Пры канцы 80-х мы, актывісты гісторыка-культурнай суполкі «Поўня», распачалі ў мясцовым друку кампанію за вяртаньне гораду гістарычнай назвы. Мы прапанавалі «Шацілавічы». Гэты назоў, на наш погляд, найбольш поўна адпавядаў беларускай тапанімічнай традыцыі. Але мясцовыя ўлады ды савецізаваная грамадзкасьць на тое не пагадзіліся. Цяпер ужо і ня ўспомніць, колькі лаянкі і кпінаў абрынулася на нашыя галовы за адну толькі думку вярнуць «сьветламу савецкаму гораду нейкую старую назву».

А шкада! Бо Сьветлагорскаў тады ў СССР было ўжо чатыры ці нават пяць. З адною параю маладых спэцыялістаў, маіх добрых сяброў, здарылася нават такая прыгода. Атрымаўшы пасьля заканчэньня Адэскага політэхнічнага інстытуту накіраваньне на Сьветлагорскі завод штучнага валакна, маладыя пайшлі на вакзал, купілі квіткі да Сьветлагорску, селі ў цягнік і прыехалі ў Калінінградзкую вобласьць. І толькі там разабраліся, што заехалі не туды.

У Беларусі Сьветлагорск адзін. Але мы, тыя, каму дарагія наша гісторыя, культура, верым, што здолеем вярнуць месту ягонае сапраўднае імя.

Будавацца горад пачаў у 50-х гадах ад паўднёвай ваколіцы Шацілак. Гэтая частка гораду, забудаваная двухпавярховымі дамамі кватэрнага і інтэрнацкага тыпу, да гэтага часу ў дакумэнтах камунальных службаў называецца «Піянэрны квартал». Чаму «піянэрны», а не «піянэрскі», ніхто са службовых асобаў, якія карыстаюцца гэтым тэрмінам, ня ведае і растлумачыць ня можа.

Зь сярэдзіны 60-х гадоў будавалі мікраараёны ўжо Сьветлагорску панэльнымі пяціпавярховікамі. Лесапалосы аддзялялі горад ад прамзоны зь яе шкоднымі для здароўя выкідамі, асабліва серавугляродам. Пры будаўніцтве 2-га і 3-га мікраараёнаў усе дрэвы, якія не траплялі непасрэдна пад дамы, былі захаваныя, растуць і цяпер. Калі дрэва траплялася на трасе тратуару ці пешаходнай сьцежкі, дык не высякалася, а абгароджвалася. Усё гэта надае гэтым мікраараёнам тую ўтульнасьць, якую справядліва адзначаюць усе, хто наведвае Сьветлагорск.

На жаль, цяпер ужо ня тое: і мікраараён «Палесьсе» паціху напаўзае на лясны масіў, і раёны

новыя здаюцца голымі, і людзі здрабнелі.

## СЫПІДАГОРСК

Такі варыянт назвы нашага гораду зьявіўся на старонках пэрыядычнага друку каля двух гадоў таму. А вежавы гарадзкі гадзіньнік, пушчаны крыху пазьней, мясцовая моладзь называе «Сьпід-Бэн».

Чаму? Недзе ўлетку 1996 году ў горадзе была выяўленая пара дзясяткаў маладых людзей, заражаных вірусам набытага імунадэфіцыту. Практычна ўся гэтая група належала да шпрыцавых наркаманаў.

Мяркуецца, што вірус быў завезены з Украіны з партыяй гатовага да ўнутрывеннага ўжываньня наркотыку. Быў наладжаны больш пільны кантроль, і колькасьць заражаных гэтым вірусам пачала расьці з хуткасьцю сьнежнай лавіны.

На цяпер зарэгістравалі 1390 носьбітаў вірусу. Гэтая лічба выклікае ў дасьведчаных людзей вялікую трывогу ня столькі колькасьцю, колькі наступным: шпрыцавых наркаманаў у горадзе зарэгістравалі каля 800 асобаў (783 на 100 тысяч насельніцтва, у 32,8 разы болей чым, па Беларусі ў цэлым), а заражаных AIDS-ам нашмат больш. Перавышэньне колькасьці інфікаваных над колькасьцю наркаманаў дае магчымасьць зрабіць выснову, што распаўсюджваньне вірусу імунадэфіцыту пайшло палавым шляхам, а значыць, групай рызыкі для Сьветлагорску стала ўсё насельніцтва, а ня толькі групы рызыкі.

Сьветлагорцы ўжо бралі ўдзел у «Эўраквілтуры-99» у Менску і Варшаве, дзе дэманстравалі чатыры квілты ў памяць жыхароў Сьветлагорску, памерлых ад гэтай хваробы. Спэцыялісты-лекары лічаць, што рэальная колькасьць асобаў, як наркаманаў, так і заражаных вірусам AIDS, прыкладна ў 4 разы перавышае зарэгістраваную. Гэта азначае, што носьбітаў вірусу ў горадзе больш за 5 тысячаў — або кожны пятнаццаты жыхар.




Часам выходзячы раніцою з кватэры, можна ўбачыць у пад'езьдзе выкарыстаны шпрыц. Лекары раяць усім сьветлагорцам мець дома гумавыя мэдычныя пальчаткі. Каб карыстацца імі пры неабходнасьці аказаць першую мэдычную дапамогу суседу ці любому чалавеку, калі гэта зьвязана з крывацёкам.

Ніхто ў Беларусі так не паінфармаваны пра AIDS, як жыхары Сьветлагорску. Нідзе не прынятыя такія меры кантролю. Нідзе не праверылі на AIDS такую колькасьць жыхароў. Так што, магчыма, у рэальнасьці справы тут ідуць лепш, чым у іншых гарадах Беларусі.

А наркотыкі былі завезеныя ў горад студэнтамі, якія вучыліся ў Санкт-Пецярбургу, у 1983 годзе. Бяда прыйшла з Поўначы.

Вось такі ён, Мой «Сьветлы» Горад. Чытачы, відаць, зьвернуць увагу на тое, што аўтарам выкарыстоўваюцца словы «горад» і «гараджане», а ня «места» і «месьцічы». Зроблена гэта сьвядома, бо насельнікі гораду больш савецкія гараджане, чым беларускія месьцічы.

Такім убачыў усё гэта аўтар, пражыўшы тут «Хрыстоў век» — 33 гады. Натуральна, што іншыя аўтары напісалі б гэта інакш, магчыма лепш і паўней.

*Кастрычнік-лістапад 1999 г.*

Здымкі Паўла Садоўскага і Джэры Флінта

# СТО БЕЛАРУСКІХ КНІГ XX СТАГОДЗЬДЗЯ

З апошніх допісаў да агульнага рэдакцыйнага сьпісу дадалося яшчэ сто новых назваў і цяпер усяго мы маем прапанаваных для «залатой сотні» 750 кніг. Зразумела, што складуць сотню толькі тыя, што называліся найчасьцей.

За што галасуюць апошнім часам? Студэнтка МДЛУ Натальля Куц выказвае, бадай, агульную тэндэнцыю і камэнтуе свой сьпіс так: «Гэта сапраўды мае любімыя кнігі. Але сярод іх я асабліва вылучаю некалькіх аўтараў: У.Караткевіча, В.Быкава, паэтаў М.Багдановіча, Н.Арсеньневу. На маю думку, гэтыя пісьменьнікі сталі прарокамі для Беларусі, якія ня толькі нясуць сваіму народу праўду, якую ад яго так старанна і доўга хавалі, але й робяць усё магчымае, каб беларусы нарэшце абудзіліся, каб пачалі адстойваць свае правы на шчасьлівае свабоднае жыцьцё, на незалежнасьць». У дадатках Натальлі таксама адлюстраваліся настроі апошняга часу, а менавіта, уключаць найноўшыя кнігі, якія выйшлі ў сьвет ужо пасьля таго, як мы распачалі складаць рэйтынг. Гэта тамы «Беларускага кнігазбору» і зусім нядаўняя кніга Васіля Супруна «Жыць для Беларусі». Праўда, ёсьць і ня згаданыя раней зборнікі Пімена Панчанкі і Ніла Гілевіча, а таксама «Сэрца на далоні» Івана Шамякіна.

Пры ўсёй апраўданасьці такіх прапановаў хачу зьвярнуць увагу іншых нашых чытачоў, якія складаюць свае рэйтынгі «Ста беларускіх кніг XX ст.», на тое, што ня ўсё, відавочна, што сёньня стаіць у кнігарнях, спраўдзіцца з часам як шэдэўр, тады як з даўно раскупленых выданьняў не хацелася б забыць нічога сапраўды вартага.

Сказанае ня тычыцца Эдуарда Санцэвіча, родам зь Дзятлава, які цяпер жыве ў ЗША, і піша нам, што ў яго сьпісе «ня ўсё ўзгаданае «найлюбімае ці найпатрэбнае», але ўсё ж частка майго жыцьця». Спадар Эдуард сабраў па сусеках якраз тыя кнігі, якія, магчыма, не павінны забыцца і іншымі. Гэта і «Падарожжа ў краіну беларусаў» Віталя Вольскага, і «Рэформа 1961 г. у Беларусі» Міколы Ўлашчыка, і два фотаальбомы Зянона Пазьняка — пра Менск і пра Браслаўскія азёры, а таксама розныя кнігі пра Беларусь на іншых мовах, якія, на думку нашага карэспандэнта, мусілі б быць перакладзенымі і ўключанымі ў рэйтынг.

Алесь Бынькоў зь Віцебску ў дадатку да свайго сьпісу паведаміў: «На жаль, перарываю падпіску на вашае выданьне. Па-першае, з-за таго, што перасталі публікавацца касэты для продажу. А самае галоўнае — на дзіва прымітыўна-сулобленымі выглядаюць «наезды» сп. Паўлоўскага-Дубаўца на Зянона. Не разумею, які з гэтага зыск?»

Зыску з «наездаў», натуральна, няма ніякага. Што да касэтаў, дык мы шукаем, хто б нам рыхтаваў такую інфармацыю. Шкада, што сп.Бынькоў яе ўжо не пабачыць. А вось што ён дадаў у сьпіс ста кніг. Тут і «Новы запавет» у перакладзе Васіля Сёмухі, і некалькі зборнікаў Рыгора Барадуліна і Ніла Гілевіча. Ад Віктара Шніпа патрабуецца «Кніга вершаў», гэтаксама як і ад згаданага Зянона Пазьняка. А ад Андрэя Мельнікава — «Тэксты песень». Да гонару сп.Бынькова трэба аднесьці й тое, што ён згадаў некалькі забытых астатнімі твораў Уладзімера Караткевіча і цэлага паэта, нашага сучасьніка Генадзя Бураўкіна. Упершыню названы таксама зборнік Славаміра Адамовіча «Плавільшчыкі расы», які зусім нядаўна выйшаў у выдавецтве «Наша Ніва».

Ул.Сабалеўскі з Гомеля — яшчэ больш хуткі. Кніга Ўл.Арлова і Г.Сагановіча «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі» толькі-толькі паказалася ў краіне, і вось — ужо змагаецца за свой рэйтынг.

Руслан Равяка з Баранавічаў тры гады таму дасылаў нам 55 назваў. «Сёньня дасылаю яшчэ 27 назваў. Да сотні даганю напрыканцы 20 стагодзьдзя — яно ж скончыцца 31.12.2000 г.». Цяжка з гэтым пагадзіцца. Ведама, чалавецтва адсьвяткуе 2000 гадоў ад нараджэньня Хрыста сёлета, пасьля за год што-небудзь прыдумае і адсьвяткуе тое самае яшчэ раз. Але ў астраноміі свае паняткі, а ў чалавечага ўяўленьня — свае. Напрыклад, калі Багушэвіч памёр у 1900 годзе, дык мы звычайна ўспрымаем гэтую падзею як падзею нашага стагодзьдзя. У кожным разе, кнігі 2000 году могуць разглядацца ў двух стагодзьдзях адразу. Што да прапанаваных Русланам дадаткаў, дык яны, ведама, уключаныя ў рэдакцыйны сьпіс, але шанцаў у такіх выданьняў як «Тазік беларускі» або «4+4+4» пры ўсёй іх вартасьці — няшмат.

Рагнеда Аляхновіч зь Менску дадала дзьве прынцыповыя пазыцыі: «Сыч Пётра. Сьмерць і салаўі (не прэпараваная Ул.Арловым публікацыя ў «Крыніцы», а мюнхенскае выданьне 1965 г.); Жук-Грышкевіч Раіса. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча». Абедзьве кнігі выдадзеныя ў эміграцыі і, на жаль, не даступныя шырокаму чытачу.

Спаміж іншых чытачоў, якія істотна дапоўнілі агульны рэдакцыйны сьпіс — Г.Туровіч з Гомеля, Анатоль Грыхуцік і Альбэрт Смалонскі зь Менску, Кастусь Балахоўскі з Мар'інай Горкі. Апошні карэспандэнт назваў свае любімыя кнігі і любімыя кнігі свае дачкі, Натальлі Івашкевіч.

Такім чынам, сёньня ў нас зьбіраецца ўжо 64 назвы кніг, за кожную зь якіх выказаліся дзесяць і болей чытачоў (лічба ў дужках). Друкуючы гэты сьпіс, мы заклікаем усіх нашых чытачоў спрычыніцца да вызначэньня залатое сотні беларускай літаратуры XX ст. Шліце нам вашыя прапановы на адрас рэдакцыі. Ад вашага голасу, і толькі ад яго, залежаць усе зьмены ў нашым рэйтынгу.

Крыт.

Багдановіч Максім. **Вянок** (41)
Караткевіч Уладзімер. **Дзікае паляваньне караля Стаха** (37)
Быкаў Васіль. **Знак бяды** (36)
Колас Якуб. **Новая зямля** (31)
Караткевіч Уладзімер. **Каласы пад сярпом тваім** (29)
Караткевіч Уладзімер. **Чорны замак Альшанскі** (29)
Купала Янка. **Спадчына** (29)
Сагановіч Генадзь. **Невядомая вайна** (29)
Тарашкевіч Браніслаў. **Беларуская граматыка для школаў** (29)
Геніюш Ларыса. **Споведзь** (28)
Ермаловіч Мікола. **Старажытная Беларусь** (27)
Быкаў Васіль. **Сотнікаў** (26)
Ластоўскі Вацлаў. **Кароткая гісторыя Беларусі** (25)
Маўр Янка. **Палескія рабінзоны** (25)
Ігнатоўскі Ўсевалад. **Кароткі нарыс гісторыі Беларусі** (24)
Смоліч Аркадзь. **Геаграфія Беларусі** (24)
Аляхновіч Францішак. **У кіпцюрох ГПУ** (23)
Арсеньнева Натальля. **Пад сінім небам** (23)
Тарасаў Кастусь. **Памяць пра легенды** (23)
Колас Якуб. **На ростанях** (22)
Купала Янка. **Жалейка** (22)
Мележ Іван. **Людзі на балоце** (22)
Туронак Юры. **Беларусь пад нямецкай акупацыяй** (22)
Арлоў Уладзімер. **Таямніцы полацкай гісторыі** (21)
Гарэцкі Максім. **Рунь** (21)
Караткевіч Уладзімер. **Хрыстос прызямліўся ў Гародні** (21)
Быкаў Васіль. **Сьцяна** (20)
Караткевіч Уладзімер. **Зямля пад белымі крыламі** (20)
Ермаловіч Мікола. **Па сьлядах аднаго міту** (19)
Чаропка Вітаўт. **Імя ў летапісе** (19)
**Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі** І і ІІ т. (19)
Быкаў Васіль. **Альпійская баляда** (17)
Віцьбіч Юрка. **Плыве з-пад сьвятое гары Нёман** (17)
Гарун Алесь. **Матчын дар** (17)
Гарэцкі Максім. **Дзьве душы** (17)
Колас Якуб. **Сымон-музыка** (17)
Геніюш Ларыса. **Ад родных ніў** (16)
Ластоўскі Вацлаў. **Падручны расейска-крыўскі (беларускі) слоўнік** (16)
Гілевіч Ніл. **Родныя дзеці** (15)
Дайнека Леанід. **След ваўкалака** (15)
Цётка. **Хрэст на свабоду** (15)
Адамовіч А., Брыль Я., Калесьнік Ул. **Я з вогненнай вёскі** (14)
**Архітэктура Беларусі.** Энцыкляпэдыя (14)
**Беларусь.** Энцыкляпэдычны даведнік (14)
Ткачоў Міхась. **Замкі Беларусі** (14)
Абдзіраловіч Ігнат. **Адвечным шляхам** (13)
Акула Кастусь. **Змагарныя дарогі** (13)
Алексіевіч Сьвятлана. **У вайны не жаночае аблічча** (13)
Гарэцкі Максім. **Гісторыя беларускай літаратуры** (13)
Даўнар-Запольскі Мітрафан. **Гісторыя Беларусі** (13)
Кіпель Вітаўт. **Беларусы ў ЗША** (13)
Ластоўскі Вацлаў. **Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі** (13)
Калубовіч Аўген. **Крокі гісторыі** (12)
Мрый Андрэй. **Запіскі Самсона Самасуя** (12)
Разанаў Алесь. **Вастрыё стралы** (12)
Сямашка Яўген. **Армія Краёва на Беларусі** (12)
Тарасаў Кастусь. **Пагоня на Грунвальд** (12)
Быкаў Васіль. **Аблава** (11)
Купала Янка. **Тутэйшыя** (11)
**Мысьліцелі й асьветнікі Беларусі** (11)
Цьвікевіч Аляксандар. **«Западно-руссизм»** (11)
Барадулін Рыгор. **Эвангельле ад мамы** (10)
Найдзюк Язэп і Касяк Іван. **Беларусь учора і сяньня** (10)
Станкевіч Адам. **Родная мова ў сьвятынях** (10)



## кніжны рэйтынг аўтараў

1. Караткевіч Уладзімер 170
2. Быкаў Васіль 147
3. Купала Янка 97
4. Колас Якуб 82
5. Гарэцкі Максім 71
6. Ластоўскі Вацлаў 60
7. Арлоў Уладзімер 51
8. Геніюш Ларыса 48
9. Ермаловіч Мікола 46
10. Багдановіч Максім 44
11. Тарасаў Кастусь 39
12. Гілевіч Ніл 37
13. Маўр Янка 34
14. Мележ Іван 34
15. Сагановіч Генадзь 33
16. Арсеньнева Натальля 31
17. Брыль Янка 31
18. Дайнека Леанід 31
19. Адамовіч Алесь 29
20. Тарашкевіч Браніслаў 29
21. Чаропка Вітаўт 26
22. Аляхновіч Францішак 25
23. Цётка 25
24. Ігнатоўскі Ўсевалад 24
25. Разанаў Алесь 24
26. Смоліч Аркадзь 24
27. Алексіевіч Сьвятлана 23
28. Барадулін Рыгор 23
29. Віцьбіч Юрка 22
30. Туронак Юры 22
31. Гарун Алесь 20
32. Чорны Кузьма 18
33. Ткачоў Міхась 17
34. Калесьнік Уладзімер 16
35. Акула Кастусь 15
36. Даўнар-Запольскі Мітрафан 15
37. Глёбус Адам 14
38. Калубовіч Аўген 14
39. Кіпель Вітаўт 14
40. Крапіва Кандрат 14
41. Мальдзіс Адам 14
42. Шамякін Іван 14
43. Абдзіраловіч Ігнат 13
44. Дубоўка Ўладзімер 13
45. Мрый Андрэй 13
46. Станкевіч Адам 13
47. Танк Максім 13
48. Адамовіч Славамір 12
49. Жылка Ўладзімер 12
50. Лынькоў Міхась 12
51. Сямашка Яўген 12
52. Адамчык Вячаслаў 11
53. Далідовіч Генрых 11
54. Касяк Іван 11
55. Пазьняк Зянон 11
56. Стральцоў Міхась 11
57. Сяднёў Масей 11
58. Улашчык Мікола 11
59. Цьвікевіч Аляксандар 11
60. Цітоў Анатоль 11
61. Вядзьмак Лысагорскі 10
62. Грахоўскі Сяргей 10
63. Найдзюк Язэп 10
64. Бядуля Зьмітрок 9
65. Іпатава Вольга 9
66. Карскі Яўхім 9
67. Лёсік Язэп 9
68. Станкевіч Ян 9
69. Лойка Алег 8
70. Луцкевіч Антон 8
71. Бутрамееў Уладзімер 7
72. Карпюк Аляксей 7
73. Панчанка Пімен 7
74. Раманюк Міхась 7
75. Сачанка Барыс 7
76. Шчакаціхін Мікола 7
77. Юхо Язэп 7
78. Ядвігін Ш. 7
79. Яновіч Сакрат 7
80. Буйло Канстанцыя 6
81. Зарэцкі Міхась 6
82. Кісялёў Генадзь 6
83. Лукашук Аляксандар 6
84. Пташнікаў Іван 6
85. Салавей Алесь 6
86. Сыс Анатоль 6
87. Александровіч Сьцяпан 5
88. Гайдук Мікола 5
89. Каганец Карусь 5
90. Каліноўскі Кастусь 5
91. Некрашэвіч Сьцяпан 5
92. Байкоў Мікалай 5
93. Рубанаў Уладзіслаў 5
94. Янкоўскі Фёдар 5
95. Адважны Вінцук 4
96. Броўка Пятрусь 4
97. Дранько-Майсюк Леанід 4
98. Запруднік Ян 4
99. Куляшоў Аркадзь 4
100. Купрэеў Мікола 4
101. Лучына Янка 4
102. Макаёнак Андрэй 4
103. Мінкін Алег 4
104. Пранчак Леанід 4
105. Рагач П. 4
106. Сапач Тацяна 4
107. Сокалаў-Воюш Сяржук 4
108. Юхнавец Янка 4

## новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

Н.Белая. **Мелодия кружев.** — Менск: Полымя, 1999. — 256 с.: іл. — Наклад 5000 ас.

*У гэтай кнізе бабуля жонкі колішняга палітвязьня Вадзіма Лабковіча — Юлі Лабковіч (яна ў кнізе — адна з мадэлек) — на падставе калекцыі, сабранай ёй і ейнай маці на працягу 75 гадоў, расказвае пра тэхніку вырабу й малюнак карункаў. У Менску кніга прадаецца ў кнігарні «Сьветач» за 2510 тысячаў. У Беларусі засталося толькі 500 асобнікаў, а рэшту павезьлі ў Расею.*

**Белорусы.** — Масква: Наука, 1998. — 503 с., іл. — Наклад 1980 ас. ISBN 5-02-009492-7

*Гэта другая кніга з расейскай акадэмічнай сэрыі «Народы й культуры» (першая выйшла ў 1997 пра расейцаў), у якой пішуць пра нас і нашых продкаў, што мы, на іхную думку, трапілі пад «моцнае ўзьдзеяньне спачатку польскай, а пасьля расейскай культуры, што надало адметнасьць культуры беларускага народу», але «беларуская культура заўжды ў сваёй аснове заставалася ўсходнеславянскай, роднаснай расейцам паводле паходжаньня й назову».*

А.Вішнеўскі ды інш. **Общая теория государства и права** / А.Вішнеўскі, Н.Гарбаток, В.Кучынскі; Падагульнай рэдакцыяй А.Вішнеўскага. 2-е выд., выпраўленае й дапоўненае. — Менск: Тэсэй, 1999. — 560 с. — Наклад 5000 ас. ISBN 985-6454-35-7

*2-е выданьне гэтае кнігі ёсьць першым дапаможнікам у Беларусі з тэорыі дзяржавы й права. Тэорыя падмацоўваецца прыкладамі ня толькі з сусьветнае праўнае практыкі, але й зь беларускае. Рэкамэндаваны да выданьня Радай Акадэміі МУС РБ.*

**Высшие учебные заведения Республики Беларусь.** Справочник абитуриента 1999/2000 / Складальнікі Н.Безбародава, Н.Ярмак ды інш. — Менск: ТэтраСыстэмс, 1999. — 272 с. — Наклад 7500 ас. ISBN 985-6317-79-7

**Кто есть кто в Республике Беларусь** / В.Фядосаў ды інш. — Менск: Завігар, 1999. — 304 с. — Наклад 3000 ас.

*Зьмешчаныя 600 артыкулаў. Сюды трапілі побач з урадоўцамі некаторыя «апазыцыйныя» палітыкі, але мала людзей з нацыянальна-дэмакратычнымі поглядамі. Андрэя Клімава не называюць вязьнем, а Шарэцкі, як высьвятляецца, нарадзіўся не ў старажытным Лаўрышаве, а ў «д. Лаврушево». Цана 1950 тысячаў за газэтную паперу й мяккую вокладку, фотаздымкаў няма.*

К. Мазуров. **Воспоминания, выступления, интервью.** — Менск: Беларускае выдавецкае таварыства «Хата», 1999. — 360 с., фота. — Наклад 1000 ас. ISBN 985-6007-87-9

# ПАЕТ БЕЗ ФУРШЭТУ

***Прэзэнтацыя «Калосься» ператварылася ў Sys-Show***

Прэзэнтацыя сёмага нумару часопіса «Калосьсе», што прайшла ў Беларускім Калегіюме 14 сьнежня, магла быць не заўважаная як шараговая зьява сярод шматлікіх культурніцкіх падзеяў тыдня, каб не абяцаньне рэдактара Алеся Аркуша наладзіць дыялёг з заляю ды зьяўленьне на публіцы паэта Сыса, які цяпер друкуецца ў «Звяздзе». Сыс прывітаўся (сёмая вечара): «Good morning!» Тыя, хто ішоў на імпрэзу «Калосься», зразумелі, што гэта будзе *імпрэза Сыса*. Гэтак амаль і сталася. Спачатку Паэт сядзеў і думаў, а пасьля вымавіў: «А Таня прыехала?» — «Тут я, тут». — «Ах, матка мая! Валасы пафарбавала! Ну ты даеш! (...) Таня, а ў прынцыпе меліроўка табе пасуе». Выступовец Аркуш не рэагуе, заля маўчыць ды ціха пасьмейваецца — Сыс задаволены.

«Алесь, успомнім маладосьць — прасьпявай на вершы Дубаўца!» — з залі паступіла замова да Алеся Камоцкага. Бард апраўдваецца, але Сыс не зважае ды голасна вядзе свой маналёг: «Званіў Камоцкаму на днях — не хапала на бутэльку, а яго дома не было». (Ці не забыліся Вы, чытачу, што гаворка аб імпрэзе «Калосься»?) На імпрэзе панаваў ужо іншы дух — людзі назіралі спэктакаль. Выступае Вітаўт Чаропка, чытае доўгі кавалак з свайго «раманца». Ён папярэдзіў, што мае цытаваць старонку на 15 хвілінаў. Голас з залі: «Ня больш за тры!» Чаропка ня чуе, затое чуе Сыс, які на дзясятай хвіліне спыняе цёзку вялікага князя: «Трэцяя старонка пайшла, казаў адна». Вітаўт, як пасьлядоўнік вялікага Ліцьвіна, не зважае на кпіну вялікага Паэта, але заканчвае чытаць і сядае. Сыс выходзіць. Чаропка ўздымаецца і, абыходзячы залю (каб ніхто «не заўважыў»), кіруецца да дзьвярэй — на перакур (Анатоль частуе). Уздымаецца Бабкоў — няўжо і ён зь імі? Фрагмэнт беларускае філязофіі з аднаго канца залі да другога прайшоў і вярнуўся, каб... зачыніць дзьверы за курцамі — надымяць яшчэ...

Але ня толькі пра Сыса і з Сысом было цікава. З рогу ўсяго многа. Паступова ў напаўпустую залю прыйшлі Лявон Баршчэўскі, Уладзімер Арлоў з жонкай і паэткай Валянцінай Аксак, Валянцін Акудовіч «і іжэ зь ім» бум-бам-літаўцы, Міхась Баярын... Сагрэлася халаднаватая заля, ажывіўся інтарэс да выступаў. І праўда, чаму не паслухаць: разважлівы Алесь Аркуш, эмацыйны Юры Гумянюк — добрыя вершы пра нядобры час. Вярнуўся й Паэт. Дамо яму слова: «Гумянюк, ты прыкольны пает. А прыдумай рыфму да слова акацыя?» Гарадзенскі майстар вершаванага слова — прыстойны дзядзька ў сьпінжаку, не міргнуўшы вокам, адказаў: «Мастурбацыя!» Сыс не чакаў гэткага павароту падзеяў. Заля стаілася, гатовая выбухнуць сьмехам... Расчараваньне — Сыс апраўдваецца: «Гэта што! А ў мяне ёсьць ляпейшая — мэнструацыя». Нецікава. Ужо цікавей слухаць Гуменюка й нават маналёг Аркуша (адцемце — галоўны «калосьсевец» абяцаў дыялёг), Сыс заняўся сваімі думкамі...

Цяперашняе «Калосьсе» абрала за сваю ідэалёгію нонканфармізм зь пераймальнем галоўных установак міжваеннага «Калосься», выдаванага Янкам Шутовічам у Вільні. Атрымаўся неблагі вынік — нумар дробным кеглем насычаны ня проста тэкстамі, але вартымі тэкстамі ды імёнамі шукайце й чытайце.

P.S. Канец імпрэзы. Дырэктар Беларускага Калегіюму Алесь Анціпенка, кампэнсуючы маналёгі герояў вечара, зьвяртаецца да аўдыторыі: «Можа хто мае пытаньні?» Марны спадзеў — люд кінуўся купляць за 300 тысячаў часопіс (як не набыць, ён жа таньнейшы ад мільёнрублёвага «Arche» (рэкляма-контрарэкляма Алеся Аркуша). Але ў аднаго чалавека заўжды ёсьць пытаньне: «А фуршэт будзе?» — «Не, ня будзе.» — «Як жа так? Пает без фуршэту — як салавей бязь лета», — Анатоль Сыс сышоў з залі. Не пад'еўшы.

**Віктар Мухін**


Фота Алены Адамчык

Праклятыя паэт Анатоль Сыс

дзёньнік маладога спэцыяліста

# ПЕРАРАЗЬМЕРКАВАНЬНЕ

Сяргей БАЛАХОНАЎ

Больш чым палову месяца давялося мне змарнаваць на тое, каб пераразьмеркавацца зь Белага Балота бліжэй да Гомеля. Змарнавана цэлая гара Дзяржынская часаў, сілу, нэрваў. У калідорах «адукацыйнай улады» не чытаюць «Arche» і «Нашай Нівы». Затое да Рэчыцкага аддзелу адукацыі даляцела газэтка гомельскіх студэнтаў «ЗуБаСьцік», дзе я вёў рубрыку «Белабалоцкая кроніка» і называў рэчы і людзей сваімі імёнамі. Загадчыца разьюшылася, нібы японскі электрачайнік на ўкраінскай газпліце: «Як вы пасьмелі пісаць такую мерзасьць пра нашых дзяцей?! Яны ў нас не дэбільныя, а рабацяшчыя, трудалюбівыя!» Што тут скажаш? Іншая жывёла таксама працавітай бывае. Загадчыца зразумела, што я ў іх чалавек «случайны», і пасьля пэўнага манежаньня ды маіх сьлязьліва-брыдкіх пэрфомансаў дала дазвол на перавод.

Народ у цягніках і на дарогах па-ранейшаму ня ведае, чаго хоча. Жаляцца на галечу і галадаваньне, карупцыю і беззаконьне, але ўпарта адмаўляюцца бачыць крыніцу ўсіх гэтых «пякнотаў» і «дабротаў». Зноў вінаватыя Пазьняк, Шушкевіч, Шарэцкі. Нейкая бабенцыя голасна патрабавала, каб вызвалены зь вязьніцы Чыгір аддаў ёй ейныя грошы. Як паслухаеш, дык і мараў у людзей сапраўдных нямашака. Ну што за мара- летуценьне адрамантаваць да Новага году стары лямпавы тэлевізар, каб было што глядзець у навагоднюю ноч?! Некаторым жанчынам ледзь за сорак, а яны, спанявераныя ў сваіх мужах ці мужчынах, «прадпачытаюць» аставацца ў сьвяточную ноч адны. Цэлы дзень я прасядзеў у абласным упраўленьні адукацыі, чакаючы канчатковага вырашэньня майго пытаньня. Азадак млеў і перамлеў. Вушы злавілі, як нейкая функцыянэрка гаварыла аб прэзыдэнцкіх выбарах ва Ўкраіне. Гаварыла з жалем за Сіманенку. Лічыла вынікі сфальсыфікаванымі. Чым бліжэйшая нацыянальная ідэя ў сваёй перамозе, тым гучней лямант аб фальшу. Хай тая ідэя сабе і ўкраінская... Калі сакратарка ў прыёмнай чародным разам падняла слухаўку і перапыталася: «КГБ?», я чамусьці падумаў пра сваю грэшную пэрсону. Але празь нейкі час справа мая была сьпетая, то бок вырашаная станоўча. Дзякуй спадарству за хлеб і малако! Мне пашэнціла, а майму былому аднагрупніку — не. Усё гэтае разьмеркавальнае казлаводзтва ці ў аднаго чалавека выклікае апазыцыйныя настроі. Ды ці выкарыстоўвае іх хто-небудзь? Наўрад.

Вось я ўжо ў Буда-Кашалёўскім раёне, у вёсцы Радзееве. Ад Гомеля 50 хвілінаў дызэлем і пяць хвілін пешкі да школы. Базавай школы. Працую па сваёй другой спэцыяльнасьці — выкладаю нямецкую мову. Дзеці, канечне, цікавыя, але сэрца грэе думка аб блізкасьці чыгункі. Акром жа таго ў Радзееве ўжо колькі гадоў жывуць мая бабуля Маня і цётачка Алена. Ёсьць дзе сагрэцца, ёсьць дзе схавацца. Позва ў ваенкамат кліча мяне 27 сьнежня. ■




*Старадаўняя Беларусь знаходзіцца ў мінулым часе. Трапіць туды можна толькі ў думках. Але навошта юнаму чалавеку падарожнічаць ў мінуўшчыну, калі ягонае жыцьцё — наперадзе? З тае прычыны, што там, у даўніне, справы, здабыткі, страты, перамогі і паразы, каханьне і здрады, радасьць і сьлёзы нашых дзядоў і прадзедаў, нашы таямнічыя карані. Цікава ведаць, чаму мы нарадзіліся тут, а, прыкладам, не ў Гасконі, чаму розьнімся ад суседзяў мовай і звычаямі, чаму ў нас іншыя песьні, іншыя сьвятыя і пакутнікі, іншыя героі. Будучыня прыходзіць сама, мінулае адкрываецца толькі цікаўнаму.*

**КАСТУСЬ ТАРАСАЎ**

*Выйшла з друку новая кніга Кастуся Тарасава*
"Беларусь. Гістарычнае падарожжа для дзяцей"

календар



# 275 ГАДОЎ ТАМУ

**1724.** Тры гады, як на нашых землях скончылася расейска-швэдзкая Паўночная вайна (1700—1721). Кароль Рэчы Паспалітай Аўгуст II Моцны выступаў то за расейцаў, то за швэдаў. Вайна даканала беларускія вольныя гарады, якія кіраваліся паводле так званага Магдэбурскага права. Па вайне ім папросту не было з кім гандляваць, бо прыватныя магнацкія гарады й мястэчкі дзейнічалі адно ў межах гаспадаркі свайго валадара.

У 1724 годзе рэзыдэнт Пятра I у Варшаве С.Даўгарукі ў сваім сакрэтным данясеньні ў Піцер перадаў дакумэнт каралеўскае канцылярыі пра тое, што гарады каронныя і Вялікага Княства Літоўскага дзеля «непреставаемых воинских отягачений... к последнему всеконечному пришли разорению». Ва Ўсходняй Беларусі месьцічы дайшлі да таго, што пачалі падрабляць расейскія мядзяныя капейкі, якія раней зусім не цаніліся, а ў самой Расеі на той час выйшлі з ужытку.

Фінансавая крыза не датычыла магнацкіх тэрыторыяў. З 20-х гадоў XVIII ст. пачаўся доўгі пэрыяд мірнага жыцьця. Адраджаліся гаспадаркі, адраджалася культура.

У 1724-м у Нясьвіжы Радзівілы заснавалі музычную капэлю, якая існавала аж да 1809 году. У Навагрудку дамініканы збудавалі мураваны касьцёл сьв.Міхала замест згарэлага драўлянага. Таксама ў Навагрудку быў адбудаваны ў стылі барока Фарны касьцёл, заснаваны Вітаўтам у 1395-м і зьнішчаны ў 1712-м у часе вайсковых дзеяньняў.

Шляхецкая вольнасьць робіцца ўсё больш неабмежаванаю — «veto!» штораз гучыць на Сэймах. Таму ніводны Сэйм не абыходзіцца без крывавых спрэчак розных фракцыяў. Калі за час «сэсіі» не зарублены тузін-другі дэпутатаў, дык і сэсія ня лічыцца ўдалай.

Але шляхецкія разборкі ня ёсьць асноўным знакам часу. Калі зазіраеш у рознага кшталту энцыкляпэдыі, найперш адзначаеш выбух «культурнай вытворчасьці» ў краіне, асабліва ў Нясвіскім княстве. Вялікае Княства, а не Карона, вяло рэй у культурным жыцьці Рэчы Паспалітай.

Калі ў аднаго з Радзівілаў, што прыяжджаў нядаўна ў Беларусь, спыталіся, ці адчувае ён сябе беларусам, той адказаў: «Радзівілы не палякі і не беларусы, мы — грамадзяне Вялікага Княства».

**Севярын Квяткоўскі**



*Гарадзенскі касьцёл езуітаў, пераролены ў пачатку XVIII ст.*



Фота IREX-ProMedia

Адам ГЛЁБУС

# НАТОЎПНІК

*Апавяданьне з кнігі "Дамавікамэрон"*

У мэтро пасярод пляцформы ў Натоўпніка разбэрсаўся матузок. Ён прыгнуўся й пачаў перабэрсваць чаравік. Натоўп няспынна рухаўся паўз яго.

Праімчаўся жаўтаскуры маладзён на ролікавых каньках.

Мінула сакаўная кабета зь вядром, поўным духмяных яблыкаў.

Пасунуўся вайсковы патруль на чале з танкавусым, худым і златварым капітанам.

Працокалі абцасікі-шпількі лякава-люстраністыя, нязручныя, нахабныя, як порначасопіс, каштоўныя й недасягальныя, як пэнтгаўз ньюёркскага пяцізоркавага хмарачосу.

Праскакаў рабы падлетак, стрыжаны пад абсалютны нуль.

Праплылі дзявочыя чорныя вочы, што ўглядаліся выключна ў свае гінэкалягічныя глыбіні.

Пракацілася каляска зь немаўляткам у ружовай капэрце.

Мільгануў міліцыянт, крычучы ў траскучую рацыю пароль: «Беркут! Беркут! Беркут!»

Пакалывала таўстуха на слановых нагах.

Прамінула мужчынскае манто, строгае, як афіцэр спэцслужбаў, манто са схаванымі гузікамі й прыўзьнятым каўняром.

Працёгся сьмярдзючы, зарослы барадою п'янтос у вязанай шапцы з кардоннай каробкаю пад пахаю.

Прабегла школьніца з букетам гладыёлусаў, крухмальных, як банты першаклясьніцы.

Прашыбавалі спартоўцы зь яркімі заплечнікамі, зь якіх тырчалі хакейныя клюшкі.

Працягнулася пэнсіянэрка з пустымі бутэлькамі ў сетцы.

Пранеслі кінакамэру, пяшчотна, як першае, доўгачаканае, семімесячнае дзіця.

Пралунала танканогая манэкеншчыца зь лілеяю ў плястычнай руцэ.

Пакрочыў чыноўнік у напрасаваным гарнітурчыку.

Правалокся згорблены валацуга з засунутымі глыбока ў кішэні кулакамі.

Прайшло чарнаскурае вуха з двума срэбнымі абручыкамі ў мясістай мочцы.

Прагрукатаў мыліцамі няголены нябога з загіпсаванай нагою.

Праляцела ўскудлачаная лахудра ў чырвоным плашчыку.

Натоўпнік скончыў перабэрсваць чаравік, узьняўся й зьнік у біялягічнай плыні.

*18.04.1999*

# ПРА МЭТРО І ПРА МЯТРО, АБО *DON'T LEAN*

Анатоль ПРАСАЛОВІЧ

*Мэтро і Мятро — рэчы зусім розныя, і іхнай тоеснасьці нам не пабачыць. Мятро — гэта сваё: шэрыя мінакі і гожыя ногі ў панчохах на эскалятары ўверсе, перагар ад суседа і адзінае, што ведаюць па-беларуску многія менчукі. Гэта — Падменшчына. Мэтро — зусім іншае: іншыя людзі, іншыя станцыі, размаляваныя вагоны, дзьверы не адчыняюцца аўтаматычна, людзі, што просяць міласьціну, рух у адваротным кірунку. Цікава, але не пра нас.*

## Пра Мэтро

Самае студэнцкае, то бок халяўнае мэтро — праскае. Калі я ўпершыню туды патрапіў паўтара гады таму, дык са зьдзіўленьнем убачыў, што ўсе праходзяць у нутро вольна, нібыта ў кожнага — праязны, і ніякіх табе жэтонапраглынальнікаў, ні бабулек-цэрбэраў. Мой былы сусед па інтэрнацкім пакоі Максім Шчур, маючы ўжо сякі-такі досьвед пражываньня ў чэскай сталіцы, са сьмехам патлумачыў, што ў Празе праязным зьяўляецца тваё собскае сумленьне, а калі і выскачыць аднекуль на пераходзе зь лініі на лінію якая кантора, выкруціцца зусім ня цяжка. Калі на Мустэку нешта падобнае здарылася са мною і нахабны валаток у скуранай куртцы пачаў адной рукой тыкаць сваёй ксівай мне проста ў нос, другой моцна трымаючы мяне за каўнер, я спачатку паспрабаваў адштурхнуць яго і вызваліцца, але, бачачы, што не змагу, быў вымушаны зьмяніць тактыку: пачаў балбатаць абы-што на самым незразумелым варыянце сакуноўскай гаворкі з дамешкам жарганізмаў друцкіх плытнікаў і кодавай адваротнай замовай: «Беларусь — турыст — Градчаны — Скарына». Адпусьціў…

У іншых сабвэях Эўропы змаганьне за падземны камунізм вядзецца ці ня з большай інтэнсыўнасьцю. У Варшаве, прыкладам, таксама няма аніякіх механічных прыстасаваньняў, якія перашкаджалі б пранікненьню долу, але кантралёры там зусім не такія ляяльныя, бо палякаў, на жаль, зьнік, так і не сфармаваўшыся, рамантычны вобраз вандроўніка з Усходу. У іншых жа кантынэнтальных сталіцах сытуацыя нашмат больш пэрспэктыўная. Летась, седзячы на прыступках пад Калізэем, я пазнаёміўся з прыгожай немкай, таксама гічгайкеркай, з Равэнсбургу, пачаставаў яе «Астрай-Люкс», ад якой яна забалдзела, бо водар «Ціцянкоў-Інвэст» нечым нагадваў шмаль, і мы вырашылі разам паехаць куды-небудзь на ўскраек Рыму пасёрбаць таннага піва. Ліраў у мяне было замала, дый на ячневую амброзію хацелася пакінуць хоць трохі, і таму яна, даехаўшы да маёй праблемы, сілком зацягнула мяне ў мэтро, прымусіла (я пярэчыў выключна дзеля праформы) абхапіць ззаду ейны вельмі гнуткі, што для немкі, стан, моцна прыціснуцца і — у пастку. У яе быў адзін толькі тыкет, але жоўтыя зеўры фотаэлемэнтаў ніяк не адрэагавалі на наш зьліты ў пралетарска-эратычным абдымку тандэм. Гэтак бы я халявіў усё жыцьцё.

У Парыжы — тое самае, толькі там ня фотаэлемэнты, а адзін пракрут турнікету: сьцягно да сьцягна, каленка пад каленку, крок у крок… Брава! — вы ў сучасных катакомбах. Існуе яшчэ адзін спосаб: твой сябра заходзіць з тыкетам і набліжаецца да выйсьця, дзе дзьверы, выпускаючы людзей на волю вольную, адчыняюцца аўтаматычна. Мэханізм бразгае хворткамі, і ты шмыгаеш да свайго таварыша, які, зразумела, і не зьбіраўся нікуды выходзіць. Партнэрам у падобных сытуацыях можа стацца любы міласэрны мінак, хутчэй за ўсё, нэгар.

Наконт нэграў. У тым самым Парыжы, як папярэджваюць турдаведнікі, праезд у мэтро пасьля дзясятай ночы робіцца задужа небясьпечным. У пэўнай ступені, як ні дзіўна, яны ня хлусяць. Сёлета, пад час свайго дэбютнага наведваньня места на Сэне, я за тры сутаргавыя гадзіны абабег усё, што здолеў, а аб адзінаццатай ночы спусьціўся ў мэтро, каб нейк выехаць стопам у бок Гішпаніі, бо я не падзяляю думкі некаторых маіх калегаў, нібыта ў вялікім месьце начаваць менш рызыкоўна. Як ехаць на Далёкі Поўдзень, тым болей, процi ночы, я дакладна ня ведаў, адно толькі выглядзеў на мапе, што лінія RER C2 выходзіць на гайвэй у кірунку Бардо.

На плятформе ўнізе кучкавалася здаровая тусоўка афрапранцузаў, чалавек з сорак. Яны аддана бэмкалі ў свае тамтамы, кармілі адвіслымі цыцкамі чарнавасьценькіх немаўляткаў, а ў паветры панаваў п'янлівы гашышовы кумар. Нешматлікія белыя — збольшага загулялыя турысьцікі — з боязьзю касавурыліся на натоўп сёньня ўжо тыповых парыжанаў, туліліся пад сьценкамі ці разгублена сноўдалі туды-сюды ў пошуках маральнае падтрымкі непрысутных там паліцыянтаў.

Мой тымчасовы расысм цалкам выпарыўся хвілінаў праз дваццаць. У вагоне, забітым мурынамі, я прысеў на адное з адкідных, на спружыне, крэслаў. Адчувальны недахоп заходнеэўрапейскіх андэграўндаў палягае ў тым, што там голасна, як у нас, не абвяшчаюць станцыяў: трэба сачыць за шыльдамі на прыпынках. І вось я ўзьняўся са свайго крэсла, каб прачытаць у прыцемках назву чарговае станцыі. І гэта з маім зрокам у мінус пяць дыёп… Крэсла, пакуль я ўглядаўся, спружыніла назад зусім бясшумна, а я, зь неабдымным стопарскім пляцаком за сьпінаю, у кантраст крэслу гучна павітаў сваім хударлявым азадкам брудную, запляваную падлогу-падлюгу «чорнага» вагону, які адразу грымнуў магутным, нястрымным рогатам. Я спачатку зьніякавеў, але потым, яшчэ седзячы долу, стаў нэрвова лахаць і сам. Малады нэгар насупраць працягнуў мне руку. Як маглі, разгаварыліся — на скаверканым інтырнэшынал энгліішы, і праз колькі хвілінаў неспадзяваныя сябры вывелі мяне на аўтабан «ту Эспэйнь»…

…Чамусьці менавіта пад час маёй першай і, спадзяюся, толькі пакуль што апошняй вандроўкі ў Вільню, набрыла ў галаву такая шалёная думка: жыхары тых местаў, дзе няма падземак, зазвычай не апускаюцца ніжэй за пэўны ўзровень. Не зважаючы на іхную «павярхоўнасьць», яны ўсё ж часьцей бываюць бліжэй да нябёсаў. Таму цяпер варта перайсьці да размовы

## Пра Мятро

У сьвеце існуе такая дурная звычка: час ад часу ставіць на чымсьці крыж. У Менску агромністы шматкілямэтровы мятровы крыж паставілі пад, не паставілі, праўда, а пракалі, прабурылі, пракапалі. Першую перакладзіну прадзяўблі пятнаццаць гадоў таму і назвалі «Маскоўскай». Праз некалькі гадоў, са зьяўленьнем «Аўтазаводзкай», беларускую сталіцу ўкрыжавалі канчаткова. І гэта ня свастыка схемы трамвайных маршрутаў, а сапраўдны хрысьціянскі крыж. Нехта скажа, што, маўляў, куты насамрэч далёка ня простыя, не ў 90 градусаў, ніякі гэта ня крыж. Няхай сабе: прынамсі, на вялізную літару «Х» змахвае. З усяго курсу эканомікі ня ўсім ін'язаўцам любага выкладчыка Ёсіпа Е-ча мне больш за ўсё запомнілася яго гісторыя пра Петрака Першага. Калі расейскаму цару быў не даспадобы які-кольвек праект закону, ён перакрэсьліваў яго ў форме літары «Х», па-старому — «хер». Адсюль і слова «херыць». То бок, пад канец тысячагодзьдзя Менск пахерылі.

Прыдумалася слова для аматараў і простых карыстальнікаў менскага Мятра — метрафаны. Цікава, што ледзь не палова зь іх на пытаньне «Дзе ты жывеш?» адказваюць «На Купалаўскай (Пралетарскай, Пушкінскай)». Слушна, дарэчы, бо, калі ня домам, дык месцам тэматычных сходнякоў менчукоў і мянчучак Мятро можна назваць сьмела: на «Трубе» («Кастрычніцкая») тусуюцца скіны і «блакітныя шалікі» — фанаты «Дынама», на «Якуба Коласа» — РНЕ-шнікі, яшчэ дзесьці — рэпэры, панкі… З усіх пластоў менскае субкультуры андэграўндам грэбуюць хіба толькі геі ды гопнікі: першыя гуртуюцца ў адмысловых клюбах, другія ж… Ну хто табе прызнаецца, што ён гопнік? Гопнік — істота неазначальная.

Для простых грамадзянаў Мятро — прытулак ад непагадзі ўвосень і ўвесну, ад сьпякоты — улетку, і ад марозу — адпаведна. Маючы чароўны праязны, можна сысьці на пляцформу, сесьці на лаўку і пачытаць сьвежую прэсу ці папіць піўка. Адно што паліць нельга. Трэба пралябаваць гэтае пытаньне.

Людзі вераць у Мятро. Гэтая вера — адна з прычынаў сёлетняе трагедыі на Нямізе. Але пра гэта — не магу і ня ўмею, бо проста страшна і крыўдна.

Прыкмячальна, што галоўны мэтр нашае краіны сваю тоеснасьць з народам умацоўвае ізноў-такі ў Мятры. Перад вачыма стаіць тэлекадрынка з амаль ужо даведзенай да ладу «Партызанскай» і Рыгоравічам на першым пляне. Апрануты ў робу, Лукашэнка аддана кладзе цэглу ў падмурак (замурак?) новае станцыі. Побач стаіць яго «беспасярэдні начальнік» — праРАБ — і ніякавата, па-вясковаму, пасьміхаецца, адказваючы на пытаньні журналіста, шукаючы патрэбныя словы, каб не пра матку, а толькі пра Бацьку.

Гадзіны «пік», натоўп, пераход «да паяздоў Маскоўскай лініі» і наадварот. У першыя тры вагоны можна і не спрабаваць, па цэнтры ж запхнуць — локцем, пырам, каленкам, а машыніст — бразь-бразь — дабівае таго, хто ўлез толькі напалову. Рай для фротараў-вычварэнцаў-церуноў — ды для вясковых дасьціпнікаў. Фротарам неспадзявана можа стацца кожны з нас, калі перад ім — нос да носу, … да … — стаіць прывабная расфарбаваная мятрошка, а вось дасьціпнікам… Ну як ня выціснуць зь сябе хоць якую крывую ўсьмешку, калі бачыш падпраўлены кімсьці надпіс «Не слоняться»: дзякуючы дагадлівым землячкам наўкола цалкам магчыма выціснуць яшчэ й ня тое. Ну, а хто з зацюканых інтэлігенцікаў здольны прыдумаць такія дасьціпныя жарты: «Вы выходзіце? — Выходзяць толькі замуж! — Добра, вы сходзіце? — Сходзяць толькі з вума…» Звар'яцець у Мятры і праўда няцяжка.

І апошняе, лёсавызначальнае: Мятро — самае таннае мэтро ў сьвеце. Бо толькі мы маем эксклюзыўную магчымасьць за паўтары цэнты пазахапляцца непараўнальнымі краявідамі падзем'я. Таму асабліва й не спрабуюць нашыя метрафанушкі пракаціцца ў сабвэі на халяву. Хоць, дакладна ведаю, спробы былі. Мой аднагрупнік Андруша Дзь. нахабна скарыстаўся коркай Беларускага Калегіюму — што з фатаздымкам — і, прыляпіўшы замест слова «студэнт» лэйбл «Нашай Нівы», некалькі месяцаў езьдзіў на Мятры задарма.

І ніхто ні разу не спыніў. ■



Фота IREX-ProMedia



# Сабачыя гісторыі

Віктар ШНІП

Адзін сабака захацеў стаць дэпутатам. А Граждан еў сала, спаў да дзявятай раніцы і хацеў павесіцца.

Аднаму сабаку падбілі вока. І ўсе, хто ўбачыць сабаку, пытаюцца: «Ці хутка закончыцца вайна?» Сустрэўся Граждан і даў сабаку ганаровую грамату.

Адзін сабака прыехаў у вёску. Выйшаў на вуліцу і заблудзіў. Стаў крычаць: «Оў! Оў!..» А яму ў адказ з кустоў: «Ты што, Граждан?»

Адзін сабака закахаўся ў Алу Пугачову. Напісаў ёй ліст. Паслаў. А назаўтра прыйшоў міліцыянт і запытаўся: «Тут жыве Граждан?»

Адзін сабака знайшоў гаршчок. Вялікі і цяжкі. Пачапіў яго сабе на вушы. Ходзіць, радуецца: «Я — цар! Я — цар!» Пачуў гэта Граждан, падбег да сабакі і запытаўся: «А шампанскае на Новы год будзе?»

Аднаму сабаку прапанавалі пасаду. Сабака адразу даў згоду і прапанаваў сваім намесьнікам Граждана. І Граждан цэлую ноч у пустой спартыўнай залі іграў на гармоніку, сьпяваў і плакаў.

Адзін сабака стаў астраномам. Прыехалі дактары. Апранулі сабаку ў белую кашулю і павезьлі ў Навінкі. Сабака нейкі час ляжаў моўчкі, а потым папрасіў: «Спыніце, хачу Граждану рамончыкаў назьбіраць...»

Адзін сабака хваліўся, што ён вельмі ўжо добры гаспадар, бо ў яго і буракі сёлета вырасьлі, і бульба ёсьць, і нават жыта накасіў. І цяпер за гэта сабаку павінны адправіць на курорты. Прыехаў Граждан і пачапіў на доме сабакі чырвоны сьцяг.

Адзін сабака забегся ў Макдональдз. Паглядзеў і засьмяяўся, як Граждан.

Адзін сабака падарваўся на міне. Ляжыць разарваны і думае: «А мог жа загінуць Граждан...»

Адзін сабака краў і жыў прыпяваючы. Але і ён трапіў у турму. Прывялі сабаку ў камэру. А там — цёмна і Гражданы. ■





**НАША НІВА** **КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________

## Наша Ніва 90 гадоў таму

# 16 СЕЛЯДЦОЎ

*3 сьнежня 1909 году*

**М.Краснае,** Віленск. губ. Вілейск. пав. У нашым мястэчку зладзеі нядаўна ўбіліся ўначы ў краму і пачалі там па-свойму гаспадарыць і парадкаваць. За сьцяной спаў гаспадар — Плотнік; прачнуўшыся, нарабіў гвалту і зладзеяў прагнаў. Тады яны паехалі да другога жыда, што дзяржыць рэстаран; выкацілі пачатую бочку зь селядцамі, ускацілі яе на воз дый пачалі ўцякаць; жыд, прачнуўшыся, давай іх даганяць; зладзеі скінулі на ўцеху гаспадару з возу 16 селядцоў, а з рэштай уцяклі.

## прыватныя абвесткі

**вітаньні**

**Віншую Юлію Жынь** з Днём народзінаў, зычу шчасьця, чароўных Калядаў і адпачынку. Усё яшчэ толькі пачынаецца. Адрадэк

**Мой любы Андрык!** Віншую цябе са сьвятам Божага Нараджэньня! Я вельмі цябе кахаю! Дзякуй Богу за тое, што ты ёсьць у мяне. Твая Сімпапончык

**Ірка Самойлава** зь Берасьця! Калі гэты нумар трапіць табе ў рукі, прымі ад мяне шчырае прывітаньне. Сябрук

**Кальварыйская рада** МФ віншуе Паўлюка Ляшчынскага з Днём нараджэньня

**Дзядзька Аляксею!** Памятайце, што фальклёр — падмурак культуры. Наталька Базылевіч

**Дзякуй сп.Марцалеву** за выратаваньне жыцьцянеабходнай асобы

**Вуліца Байкальская** вітае вяртаньне ў свае шэрагі добрага сябра і любімую дзяўчыну

**Югасю!** «Кончаны» пэрыяд нашага жыцьця мінуў 6-га, а 14-га пачалося новае і вольнае існаваньне. Бо мы — назаўжды, а ZBX рана ці позна будзе гамон. Брацік

**Мухін!** Мы абралі шлях сумленьня, а яны — свае пасады. Хто сьмяецца апошні? Сястрычка

**ідэі**

**Радыё «Рацыя»,** перакладай размовы зь незразумелай расейскай на цалкам зразумелую беларускую мову

Пры ТБМ імя Скарыны створаная ініцыятыўная група па ўзнаўленьні дзейнасьці **Бацькоўскага камітэту Менску.** Мэтай камітэту зьяўляецца абарона канстытуцыйных правоў грамадзян Беларусі на атрыманьне адукацыі і дашкольнага выхавання па-беларуску. Бацькоў, настаўнікаў і ўсіх зацікаўленых просім зьвяртацца ў сядзібу ТБМ: 220005, Менск, Румянцава 13, т. 284-85-11, E-mail: tbm@tbm.lingvo.minsk.by

**«Радавая Беларусь»** — гэта ад слова р а д а (совет), а ня рад-шэраг. Націск на першым складзе. Знавец

**Калі вы яшчэ ня ведаеце**, хто насамрэч хаваецца за імём Зянон Пазьняк, дык чытайце газэту «Радавая Беларусь». Ад Вас: 25000 р., капэрта з маркаю, й купон б/а. Запрашаем да супрацоўніцтва творчую й грамадзка-актыўную моладзь. 220050, Менск, а/с 169

**Вячаславу С.** Пацярпелы Ціцянкоў ТАКСАМА патрапіць у лідэры апазыцыі ці станецца ПЕРШЫ, каго тая НЕ падабрала?! Эд Патапёнак

**Спадарове, Ведзьмаковы** паэмы пра LM — цалкам нармалёвая ПЕСЬНЯ. (На матыў «Шаланды, полные кефали»). Патап Мак-Эдвард

**Ведзьмаку Лысагорскаму**. Вялікашаноўны, аматары застольных сьпеваў благаюць АЎТАРСКАГА рэфрэну да LM (у памеры «Не скажу за всю Одессу»). Патап Мак-Эдвард

**Тым людзям**, што дбаюць аб Беларусі: паднімайце правінцыю, бо гэта — тормаз, БЕЛАЗаўскі

**Спадарства!** Хто зацікаўлены ў разьвіцьці беларускага Інтэрнэту і хоча гэтаму паспрыяць, пішыце на E-mail lyceist@yahoo.com

**кантакты**

**Адзінокі цікавы** беларус, 42/167/65, жадае пазнаёміцца з добрай, разумнай спадарыняй. 225440, Ганцавічы, вул. Гагарына 6-2, Мікалай

Ці ёсьць у Беларусі **клюбы або сяброўствы культурна-асьветніцка-аздараўленчага** накірунку? Бо я маю пэўныя цяжкасьці са здароўем. Хачу яго паправіць. Сутыкнуўся цяпер зь літаратурай па аздараўленьні, але яна расейскага паходжаньня і заснаваная на расейскіх традыцыях, веры і культуры. А я адчуваю, што нельга раздвойваць сваю беларускую душу. Дык мо хто мне падкажа адрас ці тэлефон аздараўленчага кірунку, заснаванага шчырымі беларусамі? Аляксандар Алесік, д.62, кв.13, вул.Валынца, Вялейка

**Гісторыя вучыць справам**. Першы крок зробім разам. Нацыянал-дэмакратычна-вызвольнае згуртаваньне «Касыянэры», Салігорск, вул. Маладзёжная, 7-75

**Шукаем кантактаў** зь язычнікамі. E-mail: pagan society@mail.ru, 220082, Менск, а/с 188

**Dzie vy, Lićviny?** A taksama «Kraj»? Dapamažycie vyžyć siarod maskalskaha brudu! Pavał

**Матэматыка**. Дапамагу у падрыхтоўцы ў ВНУ. Т.:(017)2267819

**кнігі, музыка**

**Набуду першыя два** тамы поўнага збору твораў Янкі Купалы. Аляксей, т.250-20-62, 220050, Менск, а/с 342

**Куплю першы том** кнігі «Нарысы гісторыі Беларусі». Віцебск, 210032, а/с 29, Яраслаў, т.: 210-727

**Куплю «Энцыкляпэдыю гісторыі Беларусі** (т. 3 і 4), «Беларускую Энцыкляпэдыю» (т. 1-6). Н.Гілевіч, «Збор твораў», т.1. Менск, В.Харужай, 14-79. Т.:283-27-34

**GEGA RUCH** прапануе экстрэмальную нэапаганскую музыку. 220050, Менск, а/с 342

**Набуду часопіс** «Крыніца» №52 (4-5 за 1999 г.) Т.: 283-82-49, Яўгенія

**Шаноўны спадар**, хто званіў мне, што ж не пакінулі сваіх каардынатаў? А 3-ці Купала мне ўсё трэба. 247940, Петрыкаў, Талстога 22, т.:(023350) 5-12-66

**Аматары беларускае** музыкі ў Берасьці! Каму патрэбныя аўдыёкасэты — зьвяртайцеся. Сяржук. Т.:24-54-56

**куплю**

**Куплю дакумэнты** да «Mercedes-190E» — чырвоны. Т.: (277) 2-78-48

**праца**

**Прапануем в/а працу** ў хаце (200 у.а.). Даступна ўсім! Укладзіце капэрту са зв/а+купон б/а: 220089, Менск-89, а/с 122

**Прапануем в/а працу** з інфармацыяй у хаце. Гарантыя. Ад Вас — капэрта са зв/а+купон б/а. 213828, Магілёўская вобл., Бабруйск, а/с 22

**В/а праца ў** хаце. Вы цэніце свой час? Тады гэта зацікавіць Вас. Капэрта са зв/а+купон б/а. 213827, Магілёўск. вобл., Бабруйск, а/с 63

**шукаю працу**

**Дасьведчаная швачка** шукае працу ў хаце. Маю авэрлёк. 220007, Менск-07, а/с 281

*Народ, седзячы ў цемры,*
*угледзеў сьвятло вялікае, і тым, што сядзелі ў*
*краіне й ценю сьмерці, зазьзяла сьвятло*
*(Ісая, 1—2).*

**З Раством Хрыстовым Вас,**
**браты й сёстры!**
**Хай ласка Божая не пакіне Вас!**
*Гомельскія Уніяты, Ліцьвіны*



**ГАЗЭТА ПРЫМАЕ ТАКСАМА АБВЕСТКІ БОЛЬШЫМ ШРЫФТАМ ЗА НЕВЯЛІКУЮ ПЛАТУ**

- *да 20 словаў* – ***50 000*** *руб.,*
- *звыш 20 словаў* – ***70 000*** *руб.;*
- *па-мастацку афармленая аб'ява* – ***20 000*** *руб. за 1 кв. см;*
- *па-мастацку афармленая аб'ява памерам больш за 24 кв. см з улікам кошту арыгінал-макету* – *ад* ***40 000*** *руб. за 1 кв. см.*

*За аб'яву пра сямейныя падзеі – зьніжка.*

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на наступны разьліковы рахунак: *Рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010 Ленінскае аддз. «Белбізнэсбанку» г.Менску, код 763.*
На зваротным баку блянка паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна і чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і АБАВЯЗКОВА ДАДАЕЦЦА СКАЗ: «ЗА РЭКЛЯМНЫЯ ПАСЛУГІ».

*Рэдакцыя*

## паштовая скрынка

**Вадзіму Б.** *Ідзе сьнег, сьвеціць сонца, вы абдымаецеся, нясеце байдарку, вакол вялікі горад, казачны краявід... І — нічога акрамя гэтага.*

**Зьмітру Б.** з Дубровенскага раёну. *Моўныя памылкі мы зьбіраем, але для ўнутранага карыстаньня. Пра варыянтнасьць: калі адны кажуць «у лясах», а іншыя «у лясох», дык мабыць абедзьве формы маюць права на існаваньне ў пісьмовых тэкстах. Гэтак сама ў пэўных стылёвых мэтах апраўдана ўжываць словы «цела» і «плоць», «моч» і «мача» і г.д.*

**Язэпу Л.** з Салігорску. *«Не было стагодзьдзя, каб беларускі народ не пакутаваў ад сваіх суседзяў». А XIII-е? А XV-е? А ці ёсьць увогуле нейкі сярэднеэўрапейскі народ, які б цэлае стагодзьдзе не «пакутаваў ад суседзяў»? «Расейцы, немцы, палякі і іншыя народы заўсёды лічылі сваім абавязкам «несьці крыж» пакутнай Беларусі. Кожны зь іх зьдзекаваўся з нашага народу, мовы, культуры». Якім гэта чынам немцы «зьдзекаваліся з нашае мовы і культуры»? Што за «іншыя народы»? «Такога яшчэ не было, каб незалежная краіна добраахвотна лезла ў стальныя абцуговыя абдымкі Расейскай Імпэрыі». А Багдан Хмяльніцкі? А Таргавіцкая канфэдэрацыя? А грузіны? Любыя каланізатары — і ангельцы ў Эгіпце, і французы ў Марока, і расейцы ў Казахстане — заўсёды афармлялі захопы як добраахвотнае далучэньне.*

*Рыторыка, так характэрная для посткамуністычнай публіцыстыкі, цяпер успрымаецца як сатыра і гумар. It has had its day. Абурэньне можа кандэнсавацца ня толькі ў агітацыю за шчасьце, але і, напрыклад, у сумленную кроніку рэчаіснасьці.*

*Заклікаў да ўзброенай барацьбы мы друкаваць ня можам.*


«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Сакратар-рэфэрэнт Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Лявон Раманчык. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук. **Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537.**
**Tel/fax: (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.**

© **НАША НІВА**. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 3106. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 3:36, 20.12.1999 . Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 6523. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр.газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Дыспэтчарска-рэдакцыйны адрас: Менск, Бабруйская, 19/36
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12